Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 31 (4831) 7 жніўня 2015 г.


## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Леаніда Якубовіча з 70-годдзем. «Яркі талент тэлевядучага і высокі прафесіяналізм здабылі Вам любоў шматмільённай аўдыторыі гледачоў. Няхай і ў далейшым Ваша шматгранная творчая дзейнасць дорыць людзям радасць, нясе ўпэўненасць і спакой у кожны дом, служыць умацаванню дружбы і міжкультурнага супрацоўніцтва беларусаў і расіян», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ На XX Міжнародным тэатральным фестывалі «Белая вежа», які пройдзе ў Брэсце з 11 па 19 верасня, выступяць уладальнікі Гран-пры папярэдніх гадоў. У тэатральным форуме возьмуць удзел калектывы з 15 краін, у тым ліку з Балгарыі, Германіі, Ізраіля, Таджыкістана, Туніса, Чэхіі. Гледачы ўбачаць 25 драматычных, лялечных, музычных, вулічных і пластычных спектакляў.

✔ Экспанаты з калекцыі Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь прадстаўлены на міжнароднай выстаўцы «Кузэны Радзівілы (Мікалай Рыжы і Мікалай Чорны) — пачатак велічнай эпохі князёў», якая будзе праходзіць да канца года ў Біржайскім краязнаўчым музеі «Села» (Літва). Беларускі музей прадставіў для экспазіцыі чатыры музейныя прадметы XVI ст. з фондаў калекцый «Зброя агнястрэльная» і «Зброя халодная»: крамянёвы пісталет, палаш, меч і бярдыш.

✔ Вядомы інтэрпрэтатар Моцарта, легендарны венскі піяніст Паўль Бадура-Шкода прадставіць на юбілейным X Міжнародным фестывалі Юрыя Башмета ў Мінску міжнародны калектыў *East-West Chamber Orchestra* пад кіраўніцтвам піяніста Расціслава Крымера. У склад калектыву ўваходзяць лепшыя артысты з Расіі, Беларусі, краін Балтыі, Германіі ды іншых краін Еўропы.

✔ Некалькі дзясяткаў архітэктурных макетаў, выкананых Антонам Базыленкам, прадстаўлены на выстаўцы ў карцінnай галерэі Г. Х. Вашчанкі ў Гомелі. У экспазіцыі — замкі, цэрквы і сядзібы Сярэднявечча, сярод іх — «Рэканструкцыя Гомельскага феадальнага замка XV — XVI стагоддзяў», «Феадальная сядзіба перыяду Вялікага Княства Літоўскага».

✔ Заўтра ў Лепелі пройдзе Міжнародны фестываль «У госці да лепельскага Цмока». У незвычайным фэсце акрамя Беларусі будуць удзельнічаць Расія, Кітай, Славакія, Літва і Латвія. Вобраз змеепадобнай міфічнай істоты аб'ядноўвае многія культуры як знакавы сімвал, які ахоўвае прыродныя багацці.

✔ У нядзелю Палескі драматычны тэатр (Пінск) спектаклем «Пінская шляхта» пачынае X сезон. Над пастаноўкай працаваў заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Віталій Баркоўскі.


ISSN 0024-4686
9 770024 468001 15031




# Колас. Блок. Пушкін

**Творчая спадчына Якуба Коласа цікавіць не толькі беларусаў, але і нашых суседзяў. 30 ліпеня адбылося адкрыццё выстаўкі з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў Музеі-кватэры Аляксандра Блока (Санкт-Пецярбург). Яшчэ адна выстаўка, прысвечаная творчасці нашага класіка, сустракае першых наведвальнікаў сёння — у вільнюскім Літаратурным музеі Аляксандра Пушкіна.**



*Адкрыццё выстаўкі «То не музыка — натхненне» ў Музеі-кватэры Аляксандра Блока.*



*Асобны блок выстаўкі «Мой лепшы друг, мой лепшы перакладчык», прысвечаны рускаму паэту Сяргею Гарадзецкаму. Фота — Якуб Колас і Сяргей Гарадзецкі ў 1933 г. пасля выступлення на радыё. Прыжыццёвыя партрэты Якуба Коласа, намаляваныя С. Гарадзецкім. Альбом з вершамі-прысвячэннямі С. Гарадзецкага Якубу Коласу на 65-годдзе. Дарчы подпіс С. Гарадзецкага Якубу Коласу на кнізе вершаў «Песня дружбы».*

Праекты ладзяцца ў межах заключаных пагадненняў аб доўгатэрміновым творчым супрацоўніцтве. Дзелавыя, творчыя і сяброўскія стасункі паміж музеямі распачаліся з «круглых сталоў», якія некалькі гадоў таму перыядычна праходзілі ў музеі Якуба Коласа.

Выстаўкі ў Санкт-Пецярбургу і Вільнюсе прысвечаны розным аспектам жыцця і творчасці беларускага пісьменніка. Экспазіцыя ў Музеі-кватэры А. Блока прымеркаваная да 90-годдзя напісання паэмы «Сымон-музыка». Як слушна заўважае дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская, паэма вылучаецца між іншых твораў класіка, бо максімальна набліжаная да паэзіі сярэбранага веку. Гэта дазваляе звярнуцца да літаратурных узаемасувязей і расказаць у экспазіцыі пра стасункі Я. Коласа з вядомымі расійскімі творцамі.

У фондах музея Якуба Коласа захоўваецца шмат матэрыялаў, звязаных з пецярбургскім паэтам Сяргеем Гарадзецкім, які быў універсітэцкім сябрам А. Блока, «настаўнікам» С. Ясеніна. С. Гарадзецкі — адзін з перакладчыкаў на рускую мову паэмы «Новая зямля» — быў добра знаёмы з Коласам, пра што сведчыць багатае ліставанне творцаў, іх сумесныя фотаздымкі. Гэтыя матэрыялы склалі асобны блок выстаўкі.

На сваім жыццёвым шляху Якуб Колас сутыкаўся і з іншымі паэтамі сярэбранага веку. Падчас эвакуацыі ў Ташкенце ён жыў побач з домам, дзе мела пакой Ганна Ахматава. Святлана Сомава згадвала, што Якуб Колас наведваў творчыя вечары паэтэсы. Ёсць сведчанні пра тое, што ён дапамагаў Ахматавай праз Саюз пісьменнікаў — зрэшты, падтрымаць паэтэсу ў той час імкнуліся многія: ад графа Аляксея Талстога да дробнага злодзея на Алайскім кірмашы.

Якуб Колас не быў асабіста знаёмым з А. Блокам, але абодвум паэтам даволася пэўны час жыць на Піншчыне. Колас некалькі гадоў працаваў тут настаўнікам, а Блок служыў у інжынернай частцы падчас Першай сусветнай вайны. Дарэчы, супрацоўнікі музея Якуба Коласа ўжо рыхтуюць выстаўку «Якуб Колас і рускія пісьменнікі», якая ў верасні будзе дэманстравацца ў Калінінградзе.

Чытайце на стар. 2

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Колас. Блок. Пушкін

На выстаўцы «То не музыка — натхненне» прадстаўлены рукапісы паэмы «Сымон-музыка», выданні розных гадоў і пераклады. Асаблівае месца ў экспазіцыі займаюць ілюстрацыі да «Сымона-музыкі» Барыса Заборава, Мікалая Селяшчука, Эдуарда Агуновіча, Георгія Паплаўскага. Наведвальнікі Музея-кватэры А. Блока могуць пазнаёміцца і з прэзентацыяй, якая распавядае пра гісторыю напісання і выдання паэмы «Сымон-музыка», дзейнасць коласаўскага музея, мясціны, дзе жыў паэт. Урыўкі з твора гучаць у выкананні Міхаіла Канстанцінавіча Міцкевіча, што выклікала вялікую цікавасць.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі прадстаўнікі Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, старшыня Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі Барыс Арлоў, сябры Саюза пісьменнікаў Расіі Андрэй Антонаў і Мікалай Астаф'еў, Валянціна Царова і Зоя Бабкова, а таксама прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі горада. Імпрэза прывабіла ў першую чаргу людзей сталага ўзросту, ужо знаёмых з творчасцю Я. Коласа. У Музей-кватэру А. Блока завітаў і дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі Санкт-Пецярбурга Аляксандр Калякін. Аляксандр Мікалаевіч прызнаўся, што ён чалавек тых часоў, калі беларускую літаратуру яшчэ вывучалі ў Расіі, і працытаваў радкі, якімі распачынаецца «Новая зямля».

Адкрыццё выстаўкі праходзіла па-беларуску, і наведвальнікі без праблем разумелі супрацоўнікаў коласаўскага музея. У зале прагучалі ўрыўкі паэм «Сымон-музыка» і «Новая зямля» — пецярбуржцы папрасілі пачытаць Якуба Коласа па-беларуску.

У горад на Няве вядомы пісьменнік завітваў толькі выпадкам, а ў сучаснай сталіцы Літвы жыў і працаваў на працягу некалькіх гадоў. У прыгарадзе Вільні, Павільнюсе, жыла будучая жонка Якуба Коласа Марыя Каменская. Маці пабудавала для яе дом у Віленскай чыгуначнай калоніі, дзе неаднойчы спынялася сямейная пара. У доме М. Каменскай на пачатку 1960-х гадоў планавалася стварыць музей Я. Коласа, але выявілася, што будынак пашкоджаны грыбком. Дом разбурылі, а яго начынне было перададзена ў Літаратурны музей А. Пушкіна.

У гісторыі супрацоўніцтва гэтай установы з літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа ўжо нямала сумесных праектаў. Гэтым разам коласаўскі музей запрашае вільнюсцаў на выстаўку «Дзядзька ў Вільні», зробленую па матывах паэмы «Новая зямля». У экспазіцыі прадстаўлены ілюстрацыі да твора, выкананыя Васілём Шаранговічам, Анатолем Волкавым, Арленам Кашкурэвічам, Мікалаем Купавам ды іншымі беларускімі мастакамі, копіі рукапісаў народнага песняра віленскага перыяду, асабістыя рэчы Я. Коласа. З фондаў Літаратурнага музея А. Пушкіна экспануюцца фотаздымкі старой Вільні, асобнікі «Нашай Нівы», рэчы з сям'і Каменскіх. Па словах З. Камароўскай, у вільнюскім музеі ёсць нямала цікавых экспанатаў: стол, ложак, гадзіннік, падсвечнік у выглядзе шрубаў, мастацкія работы з дома Каменскіх.

Выстаўка «Дзядзька ў Вільні» ладзіцца ў межах дзён Беларусі ў Вільнюсе. «У Літве дні Беларусі праходзяць круглы год, але ў розных гарадах, — распавядае З. Камароўская. — Адбываецца адначасова шмат мерапрыемстваў, удзельнічаць у якіх вельмі цікава. Мяркую, што нам можна пераняць гэтую практыку — тады людзі будуць больш ведаць пра культуру суседніх краін, часцей знаёміцца з навінкамі».



Адкрыццё выстаўкі ў Музеі-кватэры Аляксандра Блока. Злева направа: дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі Санкт-Пецярбурга Аляксандр Калякін, загадчык аддзела музея Якуба Коласа Марыя Казакевіч, першы сакратар-консул аддзялення Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі ў Санкт-Пецярбургу Святлана Бейнаровіч, дырэктар Музея-кватэры Аляксандра Блока Лідзія Пушкарова.

Выстаўкі ў Санкт-Пецярбургу і Вільнюсе будуць дзейнічаць на працягу месяца. Ужо плануюцца і новыя сумесныя праекты. Так, неўзабаве будзе падпісана пагадненне аб творчым супрацоўніцтве з Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Фёдара Дастаеўскага (Санкт-Пецярбург). «Нашы музеі знаходзяцца ў падобнай сітуацыі, бо мемарыяльная экспазіцыя спалучаецца з літаратурнай. Да таго ж ідзе перайманне досведу стварэння экспазіцый у абмежаваных плошчах. Супрацоўнікі літаратурна-мемарыяльных музеяў разам шукаюць перспектывы развіцця ў сучасных умовах, і сумесныя праекты дапамагаюць падтрымліваць стасункі», — падкрэслівае Зінаіда Камароўская.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ,**
**здымкі прадастаўлены Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа**

# Медалі — чарнагорскім пісьменнікам

Пакуль што ў Чарнагорыі, якая атрымала сваю сучасную незалежнасць у 2006 годзе, з пісьменніцкіх імёнаў болей на слыху Аляксандр Пушкін і Уладзімір Высоцкі (апошні як аўтар песні-прызнання ў любві да гэтай старонкі), чым Якуб Колас і Янка Купала. Высоцкі нават помнікам уганараваны. Але ўсё ж складваюцца і ў пісьменнікаў Беларусі і Чарнагорыі добрыя творчыя стасункі.



Слабадан Вуканавіч.

Адвадочнай адзнакай гэтага стала ўзнагароджванне медалём Саюза пісьменнікаў Беларусі «За вялікі ўклад у літаратуру» паэта і перакладчыка Слабадана Вуканавіча і дзіцячага пісьменніка Душана Джурушыча. Апошні пераклаў і ўклаў анталогію беларускай дзіцячай літаратуры. А Слабадан Вуканавіч — часты госць у Беларусі, удзельнік «круглых сталоў» замежных пісьменнікаў, якія арганізоўваюць штогод Міністэрства інфармацыі краіны, Саюз пісьменнікаў Беларусі і Выдавецкі дом «Звязда». Дарэчы, у Мінску выдадзены адзін з яго вершаваных зборнікаў. Перакладчык паэзіі Слабадана Вуканавіча на беларускую мову — доктар філалагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Іван Чарота.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, каменціруючы рашэнне аб узнагароджванні калег з братняй краіны, заўважыў:

— Чарнагорыя — блізкая нам краіна. Яе насельніцтва заўжды было ў полі зроку Беларусі як насельніцтва міралюбівай славянскай краіны. Спадзяюся на развіццё і добрых літаратурных стасункаў Беларусі ды Чарнагорыі, на тое, што па-беларуску загучыць класік іх літаратуры Пётр Пятровіч Негаш, які быў яшчэ і кіраўніком гэтай старонкі, гэтага народа.

**Максім ЛАДЫМЕРАЎ**

# «Светач» вітае дзіцячую кнігу!

**«Белкніга» і кніжныя выдавецтвы Мініфарма краіны ладзяць адмысловую акцыю ў мінскай кнігарні «Светач».**

Учора, 6 жніўня, пакупнікоў, адпаведна — чытачоў (найперш — дзяцей, школьнікаў) у «Светач» на сустрэчу запрашалі дзіцячыя пісьменнікі. Сваімі расповедамі пра казачныя і сапраўдныя гісторыі, якія яны прыдумалі ці падгледзелі ў жыцці, падзяліліся паэты і празаікі Кацярына Хадасевіч-Лісавая, Міхась Пазнякоў, Дзмітрый Пятровіч, Ніна Галіноўская, Таццяна Сівец, Алег Ждан, Віктар Шніп, Віктар Ляскоўскі ды іншыя добра вядомыя літаратары. Дарэчы, і кнігі, і нават сшыткі, школьныя дзённікі, алоўкі, фарбы ды шмат што з таго, што школьніку трэба ў партфель пакласці, кнігарня падчас акцыі прапанавала пакупнікам на 10 працэнтаў танней, чым звычайна.

Арганізатарамі сапраўды творчага праекта поруч з «Белкнігай» выступілі выдавецтвы «Мастацкая літаратура» і Выдавецкі дом «Звязда». Між іншым, у гэты дзень кнігарня была адчынена да 23.00.

— Мы думаем, што досвед возьмуць на ўзбраенне і іншыя кнігарні краіны, — гаворыць дырэктар «Белкнігі» Аляксандр Вашкевіч. — І кніга, адрасаваная дзецям, і кніга для дарослага чытача патрабуюць цікавага расповеду. Чытачам заўжды хочацца бачыць аўтараў наяве. Так што самы час аб'ядноўвацца гандлярам кнігай і пісьменнікам. Тады, пэўна, і тыражы вырастуць, і паболее назваў кніг.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Прынятыя ў СПБ



**Кацярына Паўлаўна МАССЭ**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 19 лютага 1997 года ў Мінску. Скончыла сталічную сярэднюю школу № 73. Цяпер студэнтка факультэта міжкультурных камунікацый Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных літаратурных конкурсаў. Аўтар паэтычных зборнікаў «Льётся свет в моё окно» (2012) і «Двоичный код» (2015).



***Анатолій Яўгеньевіч* МАТВІЕНКА**

*Секцыя прозы*

Нарадзіўся 6 ліпеня 1961 года ў Мінску. Скончыў юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Служыў следчым МУС. Кандыдат юрыдычных навук. Працуе ў жанры дакументальнай кінадраматургіі. Аўтар больш як дзесятка кніг прозы.

# З мараў Багдановіча



**Пазнаёміцца з беларускімі традыцыйнымі цацкамі, прасачыць шлях хлеба ад зярнятка да бохана на стале — усе гэтыя цікавосткі чакалі наведвальнікаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча падчас «Тыдня вандровак у мінулае». Асобны блок заняткаў для вучняў пачатковых класаў быў прысвечаны батлейцы.**

Батлейка ў музеі Багдановіча з'явілася невыпадкова. Як распавяла старшы навуковы супрацоўнік Таццяна Барадуля (па сумяшчальніцтве — падрыхтаваны батлейшчык), Максім Адамавіч аднойчы прысутнічаў на праглядзе батлеечнага спектакля і вельмі ўпадабаў гэтую дзею. Паэт захацеў развучыць батлеечны рэпертуар і вандраваць са сваім тэатрам па вёсках, мястэчках і гарадах. Такое сведчанне пакінула ва ўспамінах Зоська Верас.

Але хвароба ўжо не дазволіла Максіму зрабіць уласную батлейку. Супрацоўнікі музея вырашылі рэалізаваць мару паэта. Нагодай для з'яўлення ўласнай батлейкі ў музеі Багдановіча стаў рамонт у філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры «Беларуская хатка». На час рамонту батлейку перавезлі з «Беларускай хаткі» ў музей Багдановіча. Неўзабаве для музея Багдановіча была зроблена ўласная батлейка — «гастрольны варыянт», крыху меншы і лягчэйшы за аўтэнтычную скрыню. З гэтай батлейкай супрацоўнікі часта наведваюць школы, ладзяць пастаноўкі ў музеі.

З 2010 года штодзень адбываецца па некалькі прадстаўленняў. Батлейку для дзяцей часта замаўляюць невялікія групы наведвальнікаў — асобныя сем'і ці турысты з суседніх краін. Распрацаваныя два тыпы заняткаў: «Сам зраблю батлеечную ляльку» і вандроўка «У чароўны свет батлейкі».

Падчас вандроўкі дзеці знаёмяцца з біяграфіяй Максіма Багдановіча і гісторыяй батлейкі, глядзяць прадстаўленне — сцэнку пра нараджэнне Ісуса Хрыста, казку пра Цара Ірада, сатырычна-побытавыя сцэнкі, у якіх высмейваюцца кепскія якасці адмоўных герояў — хітрасць, лянота, жаданне выслужыцца.

«Сцэнкі маглі пераходзіць у батлейку з народнага жыцця, іх не трэба было адмыслова прыдумваць. Гісторыі пра пана і паненку, цыгана і цыганку, яўрэя і яўрэйку дайшлі да нашага часу амаль без змен, — распавядае Т. Барадуля. — Камічныя сітуацыі і сёння выклікаюць смех у гледачоў, таму дзеці пакідаюць музей у радасным настроі».

На занятках «Сам зраблю батлеечную ляльку» школьнікі не толькі слухаюць цікавы расповед і глядзяць урывак са сцэнкі, але і ўважліва разглядаюць лялькі, сочаць за іх рухам па сцэне. Супрацоўнікі раздаюць дзецям загадзя падрыхтаваныя шаблоны з паперы з абрысамі анёла. Кожны наведвальнік расфарбоўвае фігурку каляровымі алоўкамі, прыклейвае да яе шпянёк і атрымлівае ўнікальную стылізаваную батлеечную ляльку. Вядучыя распавядаюць, як робіцца іншыя лялькі, заахвочваюць дзяцей прыдумваць свае сцэнкі і дыялогі. У выніку ў некаторых школах вучні пачынаюць рабіць уласныя батлейкі, ствараюць спектаклі і паказваюць іх на святы.

Так з даўняй цікаўнасці Багдановіча пачынаецца знаёмства з батлейкай і пакрысе здзяйсняюцца мары паэта…

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Гістарычнае поле Пскова

У апошнія дні ліпеня на Пскоўшчыне ў пяты раз прайшоў фестываль гістарычнай паэзіі «Словенское поле», арганізаваны Пскоўскім рэгіянальным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Расіі на чале з вядучым паэтычнага форуму Андрэем Беніямінавым.

Свята сабрала паэтаў з Яраслаўскай і Маскоўскай абласцей, Белгарада, Смаленска, Масквы, Волагды, Кастрамы, Санкт-Пецярбурга, Пскова і Пскоўскай вобласці, Беларусі.

Каля сцен старажытнай крэпасці Ізборска гучалі вершы ўдзельнікаў фестывалю, прысвечаныя гісторыі, яе героям, старажытным гарадам. У год 70-годдзя Вялікай Перамогі многія аўтары звярнуліся да тэмы Вялікай Айчыннай вайны.

Адкрылі мерапрыемства старшыня Пскоўскага рэгіянальнага аддзялення СП Расіі Ігар Смолькін і дырэктар музея-запаведніка «Ізборск» Наталля Дуброўская.

Ганаровы госць фестывалю, член вышэйшага творчага савета, старшыня савета па паэзіі СП Расіі, заслужаны работнік культуры Расійскай Федэрацыі, старшыня журы паэтычнага конкурсу «Словенское поле-2015» паэт Віктар Кірушын з Масквы выступіў з прывітальным словам ад праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі. Прыхільна было сустрэта гасцямі і ўдзельнікамі фестывалю выступленне нашай зямлячкі Наталлі Саветнай, члена СПБ, СП Расіі і СП Саюзнай дзяржавы. Наталля Віктараўна распавяла аб працы па ўвекавечанні памяці вядомага пскоўскага паэта Ігара Грыгор'ева: пра даследаванні, якія праводзяцца навукоўцамі Расіі і Беларусі, літаратурны сайт, прысвечаны памяці паэта, міжнародны паэтычны конкурс, які носіць яго імя. Вынікі творчага супрацоўніцтва будуць агучаны на Другіх літаратурных чытаннях памяці І. Грыгор'ева ў Інстытуце рускай літаратуры РАН (Пушкінскі Дом) у Санкт-Пецярбургу ў лістападзе гэтага года.

Менавіта вершамі Ігара Грыгор'ева Наталля Саветная пачала сваё паэтычнае выступленне падчас фестывалю. Зрэшты, і яе ўласныя радкі былі высока ацэненыя як слухачамі, так і журы. У выніку Наталля Віктараўна стала пераможцам конкурсу гістарычнай паэзіі «Словенское поле-2015», заняўшы першае месца ў намінацыі «Профи».

**Зоя ШАЛЫГА**

# Дом для мастака

**Персанальная выстаўка армянскага мастака з Санкт-Пецярбурга Ашота Хачатрана «Падарожжа ў арт-прастору» адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.**



У экспазіцыі прадстаўлена каля сарака жывапісных палотнаў з розных перыядаў творчасці мастака. Гэта дазваляе прасачыць эвалюцыю стылю майстра. Вобразы на першы погляд не падобныя, але пры дэталёвым разглядзе адчуваецца іх блізкасць, аб'яднанасць гуманістычнай канцэпцыяй.

Дзяцінства і юнацтва Ашота Хачатрана звязаны з Арменіяй, менавіта там ён і пачаў маляваць, скончыў Ерэванскае вучылішча дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У большасці карцін мастак паказвае прыгажосць родных мясцін, захапляе гледачоў яркімі фарбамі радзімы. На адкрыцці выстаўкі Ашот Хачатран падкрэсліў, што, нягледзячы на жыццё ў Санкт-Пецярбургу, Арменія для яго — самы першы дом, куды душа ўсё часцей просіць вяртацца. Сёння творы Ашота Хачатрана можна ўбачыць у Музеі Святога Эчміядзіна ў Арменіі, Музеі горада Ерэвана, калекцыі Армянскай Апостальскай царквы ў Пецярбургу і Бухарэсце, у прыватных калекцыях Арменіі, Даніі, Францыі, ЗША, Італіі, Германіі, Англіі ды іншых краін.

Самыя раннія прадстаўленыя на выстаўцы творы «Аўтапартрэт з белай павязкай» і «Нацюрморт з бананамі» мастак напісаў у 1979 — 1980 гадах. Час станаўлення майстра, набыццё ім стылю характарызуюць палотны «Ад стагоддзя да стагоддзя» і «Кляштар Гехард» (1993). Іншыя карціны, прадстаўленыя ў экспазіцыі, былі створаны за апошнія пятнаццаць год. Яны паказваюць сталенне аўтара, працэс выпрацоўкі яго індывідуальнага стылю.

Работы Ашота Хачатрана неаднолькавыя па настроі: некаторыя з іх вельмі спакойныя («Прырода. Жаночая фігура», «Бяроза»), а некаторыя напружаныя, пабудаваныя на спалучэнні кантрасных колераў, адлюстраванні драматычных сюжэтаў («Аўтапартрэт на фоне палітры», «Кветка», «Тры галасы»). Ашот Хачатран працуе ў розных жанрах: нацюрморт, пейзаж і партрэт. Асобнае месца ў яго творчасці належыць аўтапартрэтам: на кожным мастак выяўляе сябе па-рознаму.

**Вікторыя АСКЕРА, фота аўтара**

## *Шаноўныя чытачы!*

*Прапануем вам спрычыніцца да выдання «ЛіМа».*
*Для гэтага адкажыце на наступныя пытанні і дашліце адказы ў рэдакцыю.*

*— Якія рубрыкі ў газеце вы лічыце самымі важнымі і цікавымі?*____________________

____________________________________________________________

*— Ад якіх матэрыялаў, на вашу думку, няма ніякай карысці?* ____________________________

____________________________________________________________

*— Якія рубрыкі і тэмы вы прапанавалі б увесці на старонках «ЛіМа»?* ____________________________

____________________________________________________________

***Палепшым газету разам!***

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні паэту Уладзіміру Іванавічу КАРЫЗНУ ў сувязі са смерцю роднай СЯСТРЫ Іны Іванаўны.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Віктару Іванавічу КУНЦЭВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

## Дэбют

## Павел ДАРОХІН



Нарадзіўся ў Мінску ў 1986 г. Скончыў Мінскую дзяржаўную гімназію-каледж мастацтваў, гістарычны факультэт і магістратуру БДУ, аспірантуру Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, прайшоў перападрыхтоўку ў Дзяржаўным інстытуце кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ па спецыяльнасці «Перакладчык-рэферэнт». Займаецца камп'ютарнай графікай, ілюстрацыяй, задзейнічаны ў якасці музыканта ў тэатральнай студыі «Тэатральны Квадрат». Працуе загадчыкам аспірантуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

***

У ноч, калі з разораў нябёсаў
Зззяе святло, адлюстраванае
ў лужынах,
Буду думаць. Не, я буду
наўпрост адчуваць
І атаясамляць сабе
з наваколлем,
Ісці да слупоў Геракла,
хоць босым,
Але ўжо дома, і цені на столі
кружаць.
Толькі чутно за вакном,
як нехта накіраваны спаць.
Усё добра.

***

Го-го-го, каза, го-го-го, шэрая.
Даволі!
Я стварыў на сайце чарговай
анлайн-гульні.
Танчы го-го ў клетцы,
падвешанай да столі,
Грай у го супраць майстра,
а хочаш — яго падмані.
Мы пралічым рызыку
на арыфмометры,
Карункі мінных расцяжак
супраць яго,
Мозг нагадае ўшчэнт
зруйнаваны Ковентры.
Avanti, Каза, я сказаў,
цяпер — го-го-го!
Ты танчыш у клетцы,
бы канарэйка ў шахце
На нашых вачах. Дыхай,
пакуль шчэ ёсць.
Гульні ў го — гэта вам
не банальныя шахматы.
Грукат у дзверы: з'явіўся
каменны госць.
Ты накармі яго, лазню зрабі,
бензінам
Можаш з лімонам і содай
пачаставаць.
Прымай, зямля, углыб на два
свайго блуднага сына,
Хай адпачне — заўтра рана
на працу ўставаць.
Усё і адразу, не ў час, не так
і не з тымі,
Ад Рабава чуеш звычайнае
«каля нуля»,
А я — назіральнік, мяне
ўпрыгожванні міны
Так бавяць, забі ці хоць танчы,
хоць грай, хоць гуляй.

***

Вакантная праца
для прыстасаванца з вопытам.
Інстынкт пасміхацца,
далей карыстацца попытам.
Нашу ўпрыгожванне, у твар
скажа кожны: ланцуг.
Да восеньскай пожні датупаў
не вожык — пацук.
Прылівы й адлівы пад фільмы
ды піва як след —
З пустэчы на дзіва малюю
рупліва сусвет
Жывёлы й расліны,
Раман і Аліна. Чуваць.
Ужо за гадзіну, а ў гэтай
краіне не спяць.
Ні жалю, ні скрухі, навушнікі
круцяць дваіх
Да зоркі на гукі, калі яе рукі
ў тваіх.
Ноч перагарнецца — і дзень
распачнецца наноў.
А мне давядзецца ў іншае месца,
дамоў.

***

Вецер жыве ў бляшанках
з-пад колы,
Чысціць сківіцы вуліц ад бруду,
Ад кавалачкаў ежы, у вузкіх
колах
Вядомых пад вычарпальным
назовам «людзі».
Задзьме ён — і ўсе дзірванеюць,
бы пудзілы,
Будаваць пачынаюць: хто —
мур, хто — млын…
Мне ж спраў усяго, што
замкнуцца ў «худзі»:
І дрэва не ссек, і каменне згубіў.
Каб выжыць, варта вучыцца
плаваць:
На час — у глыбіні, на час —
на абшар.
І ў момант, калі ўжо зажыва
смажаць,
Вуду мне раіць разумнік-мысляр.
Каб выжыць, варта вучыцца
лётаць,
Калі разгойсалі сябры ў двары.
Арэлі дурэюць, раскідваюць
боты
На час — долу, потым на час
дагары.
Адны, халодныя, спаталяюць
смагу.
Другія, гарачыя, грэюць косці,
А трэція — цёплыя, бы
мінералка,
Такіх зручна запрашаць у госці:
Не апаліць скуры, не застудзіць
горла…
Усё гэта мела б значэнне, але
Бы гумкай усе ўспаміны сцёрла,
Калі ты ўжо не баржом, а алей,
Каб змазваць арэлі й смажыць
шчупакоў.
І не трэба тады ні муроў,
ні млыноў…
Аблізвае дахі дамоў-зубоў
Вецер, які жыве ў бляшанках
з-пад колы.

***

Нас выпадкова замкнулі
ў адным вагоне
У невядомым напрамку,
адкуль і куды
Лёгка саскочыць, абапал
вартуюць адхоны,
Чорныя кіпці варушацца
ў небе рудым.
У свеце Эўклідавым мы —
паралельныя лініі.
Ані перспектыў, бо ў кропку
сысціся няможна.
Грэюцца толькі ад руху дзве
рэйкі састылыя.
Кропак няма, то бясконца
йдзе падарожжа.
Жыць у кубах, параскіданых
дзіцем, нязграбна.
Парэзаў шпалеры — будзе
пастаўлены ў кут.
Лунаць у прасторы часам
надзвычай прывабна:
Ты так далёка, побач, тут
і не тут.

***

Насустрач ісці, дзе палярнай
не бачна,
Калі скрыжаванне не крыж
Насуперак словам,
дзе ўсё адназначна.
Глядзі, ты насупраць стаіш,
Дзе ўсё адмыслова, глухія асновы
Ды зноў, што і год адсюль,
Што быццам згубіўся, глытай
жыццяпісы,
Дажджы каляровых куль
Калі яе рукі складаюць калодзеж
Лістом ці то лісцем пустым,
Калі ты падорыш хвіліны
на продаж,
Ніякі напой ні пры чым.
Насамрэч утульна ў вагоне
агульным…
Апошні — закінуты свет.
Жывёлы паснулі, расліны
паснулі.
Няблага б і нам, ці не?
Адвечным вяртаннем, зімой-
паляваннем
Пазнай, і суцішым ход.
Мо хочаш працягу апавядання?
Націсні — спрацуе код.

## Маргарыта ПРЫКА



***

Заўчаснае пахаванне тваіх намераў
пакіне шлях на пустэльным лісце.
Ноч і дзень вымалююцца не памерам,
а тым, што чакаеш і хто ідзе.

Заўважаеш, што змены неадваротны,
няма моцы — усё ліпеньскі супраціў.
Цёпла, ды што застанецца потым?
Дзеяслоўная рыфма, стары матыў.

І даўно не здзіўляюць словы і рухі.
пажадана скрасці шматок цішыні…
Хто гняздуе ў душы? Глядзі і слухай,
а адвар са смутку лепш абміні.

Не замовіла лета, вясна красуе.
Мы з'язджаем на воблаку з белых глуздоў.
Думкі пчоламі клеяць упарта вулей.
Без рэфлексій прачнецца ранак наноў.

***

Ты пусты, як паперы аркуш.
Расцеш у гаршку на падваконні,
ходзіш на працу і быццам да каханкі.
Ты быццам жывеш, быццам марыш.
Спажываеш чужыя эмоцыі, глядзіш,
як іншыя паміраюць у гульні,
набываеш рэчы, што дапамагаюць
не адчуваць самоту і не думаць.

Ты не самы дрэнны экзэмпляр
і не самы лепшы. Ты — сярэдзіна.
І жыццё тваё сярэдняе, і каханне,
і мары, і боль. Ты — мара статыста.

Па табе можна складваць табліцы
сярэдняга жыцця. Мажа, аднойчы
ты прачнешся ад забыцця. Будзе
неспадзявана цяжка вучыцца дыхаць.

***

Здзіві мяне, на памаранчавым калідоры
разлі кіслату,
каб з'ела паркет, і пальчаткі, і боты,
і цыгарэты.
Прыедзь тады, калі не клічуць, туды,
куды нельга.
Праз зачыненыя вочы пабач, як дрыжыць
твая ўпэўненасць.

Уяві сябе без Мы. Есць толькі подых і ты.
Ты — подых.

***

Нечаканая шчырасць расплюшчвае вочы.
Заходзь у іх бездань кожны ахвочы,
бяры іголку і фарбу, каб заліць
у рагавіцу. Бо нядоўга выцерпіш

без хлусні. А калі вока чорнае,
не ўгледзіш душу, толькі цьмяная ціша.
Ты можаш смяяцца і енчыць,
кахаць і ненавідзець, забыць…

Тваё размаляванае вока ўсё бачыць,
усе памятае, але ніхто не заўважыць,
баліць табе ці не баліць. Дык дыхай!
на сэрцы пакуль тату не зрабіць.

Можна працягваць гульню.



Фота Ганны Бізюковай.

Браніслаў ЗУБКОЎСКІ

# Артысты прыехалі…



Пра тое, што ў Вусце прыязджаюць артысты з канцэртам, Чэсь Клеўка даведаўся ад аднагодка Фэлькі Рымашэўскага.

— Нават стрэльбы з сабою прывязуць, — сказаў Фэлька.

— Дык навошта на канцэрце стрэльбы? — здзівіўся Чэсь. — Не на паляванне ж збіраюцца.

— Стрэльбы прывязуць з сабой. Я сам чуў, як дзядька Колас майму тату расказваў, — ступіў Фэлька басанож у цёплую яружыну пры дарозе.

Тут і тата Фэлькі паказаўся. Вёў каня на пашу. На шыі каня медныя званочкі пачэплены.

— Пакуль я з канём упраўлюся, то вы, хлапцы, нарвіце каля Балачанкі аеру пабольш і ў хату прынясіце, — даў заданне бацька Фэлькі.

— Дык навошта той аер? — не зразумеў Чэсь.

— Ён добра пахне. Значыцца, гасцям дыхаць будзе лёгка, — патлумачыў Фэлька.

— А я што… А я з шанькі з дому сала для артыстаў прыхаплю. Мама дазволіць. У нас сала смачнае, з чырвонымі атожылкамі, — даводзіў Чэсь, падумаўшы пра той канцэрт, на які так хацелася трапіць у якасці гледача.

Артысты прыехалі ў вёску апоўдні. Колас сустракаў гасцей на падворку хаты Язэпа, дзе летаваў з сям'ёй.

Марыя Дзмітрыеўна частавала гасцей крышкамі — бульбяным супам з цыбуляй.

— Смаката, — хваліў страву начальнік артыстаў Дарвішаў.

— У нас на Віцебшчыне пра гэту страву кажуць «ёмінка пахучая», — твар артыста свяціўся радасцю. А жонка Коласа ўжо падавала гасцям у гліняных місках-латушках блінцы.

Пад'еўшы, артысты ўзяліся за справу: на ногі паадзявалі суконныя снягаўкі, на галовы — саламяныя капелюшы, узялі ў рукі зброю. Рэпетыцыю распачалі каля гумна Язэпа Рымашэўскага. Сам Колас, седзячы на лежаку, што месціўся каля летаўніка дроў, аддаваў артыстам каманды, вучыў вымаўляць словы на народны манер.

Усе вусцянцы збегліся паглядзець на артыстаў, кожны з якіх трымаў у руках стрэльбу. А ў жанчыны-артысткі ў швэндары — вязанай кофце з засцежкамі — быў толькі качарэшнік.

— Ну і каго яна збіраецца лупцаваць? — шапнула Чэсева маці сыну на вуха.

— Можа, таго самага Саўку, што здрадзіў партызанам, якія разам з Чырвонай Арміяй уступілі ў барацьбу з белапалякамі, — адказаў старшыня калгаса «Пуцілавец» Клемус Жук, пачуўшы рэпліку Алены Клеўка.

У падзеі спектакля пад адкрытым небам уцягваліся вусцянцы з усіх пяцікатак вёскі. Актыўна апладзіравалі неамбітнаму дзеду Талашу — партызанскаму атаману, сачылі за падзеямі пастаноўкі.

Праўда, артыст, што іграў Талаша, увесь час бегаў у хату Язэпа.

— Усмяг я, — казаў. — Трэба кваску бярозавага папіць.

— А стрэльбу з сабой бярэ ў хату! — здзівіўся Чэсь, пагледзеўшы на сябра.

— А як жа, — патлумачыў Фэлька. — Правільна робіць. Раптам белапалякі сюды прысунуцца — чым бараніцца будзе?

Тым часам «дзед Талаш» даў заданне Чэсю і Фэльку:

— Прыхапіце вядзерца, прынясіце вадзіцы з ракі.

Хлапчукі — тут жа да Балачанкі: хіба можна аслухацца партызанскага камандзіра? А артыст зноў папрасіў:

— Паліце мне на шыю, спіну. Упацеў, горача ж у вас тут, — і зняў кашулю.

Абвастрылася абстаноўка ў спектаклі падчас суда над Саўкам.

— Што будзем рабіць, людцы? — звярнуўся рэжысёр да вусцянцаў. Здраднік Мільгуй. З войтам знюхаўся. За яго шапку-кушнерку душу гатовы прадаць. Стрэнчыць войту як ліхой скуле, вылупак.

На словы рэжысёра адрэагавалі.

— Асіна па Саўку даўно плача, — узняўся з травы Язэп Рымашэўскі.

— Пасадзіць нягодніка на хлеб і ваду! — прапанавала Чэсева маці. — Ледзь не прывёў партызан да гібелі!

Саўку ніхто не шкадаваў.

— Распусціў свае лыгі-ногі, нос бутальковы! — гарачыўся Рымашэўскі.

— П'яніца ён, — падтрымала Алена Клеўка. — Апівох няшчасны. Матыку ў рукі яму — і на поле, каб барозны парабіў. Альбо парэзаныя дровы ў клат няхай кладзе, гультай-пустадомак.

— Не, такіх мы ў калгас не бяром, — не згадзіўся з ёю Клемус Жук.

Не змаўчаў і разгневаны бацька Чэся, кінуўся да Саўкі з пудовымі кулакамі, але не выцяў: не паспеў.

— Не чапай яго, Ігнат Андрэевіч, — папрасіў Колас. — Бог яму суддзя.

Пачуўшы словы Коласа, Саўка стаў на калені, пачаў прасіць літасці. Дзед Талаш, адкінуўшы ўбок пугу-павіванку, голасна загадаў:

— Прэч з вачэй, на ўсе чатыры бакі ідзі. Толькі не пройдзеш і вярсты, бо ўсё сумленне ў гарэлцы пакінуў.

— Правільна, — адобрыў такое рашэнне старшыня калгаса «Пуцілавец». Не месца нягодніку ў калектыве!

Падчас перапынку артысты абступілі дзядзьку Коласа. А той жартуе, розныя жыццёвыя гісторыі расказвае.

— У адным сяле, — кажа, — жыў-быў выдатны разьбяр па дрэве. Пакінуў ён сыну бярозавую лыжку. Як сядзе Іван за стол, бацьку і ўспомніць. А жонка Марыя сварыцца. «Гучна сёрбаеш, — дакарае. — Вазьмі лепш звычайную лыжку...»

— А муж што? — не ўтрымаўся Рымашэўскі. — Маўчаў?

— Муж сапраўды маўчаў, — выцер Колас хусцінкай узмакрэлы твар. — Але потым не вытрымаў. «А ты іншую сукенку, — раіць жонцы, — апрані. Тую, што твая маці пашыла табе перад нашым вяселлем...»

Колас усміхнуўся: абяззброіў Іван Марыю напамінам.

«У вёсцы жанчыны і цяпер хваляць твайго бацьку, — заўважыла жонка. — Лепшы бондар на ўвесь раён быў. Такія бочкі і дзежкі ніхто не зробіць». А Іван закальца не пакінуў: «Маці твая лепшай швачкай была. Кабеты ў чаргу выстройваліся, каб пашыла ім які ўбор...»

— Паразумеліся, бачыш, аднак, — заўважыў начальнік артыстаў. — Падыход у Івана ого-го!

— Адступілася кабета, — засмяяўся Колас. — Праўда, тут жа выдала: «Ну чаго сядзіш з лыжкай у руцэ? Сёрбай ужо — дазваляю».

— Павучальная прытча, — задумаўся галоўны рэжысёр.

Напрыканцы пастаноўкі Канстанцін Міхайлавіч прадставіў вусцянцам артыстаў, удзельнікаў спектакля «У пушчах Палесся». Усіх пералічыў: Малчанава, Ільінскага, Сяргейчыка, Былінскую. На паклоны выйшаў і рэжысёр Дарвішаў.

— Вось у такім складзе і павязём мы гэтую пастаноўку ў Маскву, на дэкаду беларускага мастацтва. Ад вашых вытокаў вусцянскіх пойдзе яна ў людзі — да ўсесаюзнага гледача.

Спектакль па матывах аповесці Я. Коласа «Дрыгва» быў паказаны напрыканцы 1930-х гадоў у Маскве. Так вусцянцы з Пухавіччыны адкрылі артыстам дарогу ў савецкую сталіцу.

Ганна АТРОШЧАНКА

# Таццяна



Дзверы з грукатам адчыніліся. У хату забегла маленькая чарнявая жанчына, яшчэ даволі рухавая і маладая. На першы погляд яе можна было прыняць за дзяўчыну. Але гаротныя складкі каля вуснаў перадавалі сапраўдны стан душы і сведчылі пра тое, што кабета шмат чаго зведала…

У Хадоры загінулі на вайне два браты — Мікола ды Іван, якія, на жаль, не пакінулі сабе нашчадкаў, і каханы муж, ад якога засталася маленькая дачушка.

Вясёлымі, прывабнымі хлопцамі былі браты Хадоры. Да вайны на іх цішком пазіралі многія дзяўчаты — спадзяваліся на ўвагу. Але вайна…

Хадора, не павітаўшыся, проста з парога выгукнула на ўсю хату:

— Таня! Чула навіну: вайна скончылася! Ура! Хутчэй бяжым на вуліцу — перамогу святкаваць!

— Цішэй ты! — перапыніла яе Таццяна. — Чаго крычыш на ўсе застаўкі? Дзіцёнак вунь яшчэ спіць, разбудзіш, напалохаеш. Яшчэ, не дай божа, заікам вырасце. Каму патрэбен будзе?! Адкуль навіна? Хто табе сказаў?

— Вайскоўцы, з Цераховкі. Не бачыла, ці што? Зірні ў акно. Вунь каля хаты Зорыкавых стаіць грузавік. Там усе ўжо сабраліся, слухаюць вусатага маёра, удовы слязамі заліваюцца... Кажуць, з гэткай нагоды ўсім дарослым выдадуць па сто грамаў гарэлкі ды па акрайцы хлеба. А можа, і што іншае прывезлі? Вось каб выдалі салдацкі паёк кожнай салдатцы…

Хадора схапіла сяброўку за рукаво і пацягнула да дзвярэй. Нахіліўшыся, прашаптала:

— Пайшлі. Хопіць нам ужо гараваць, сумаваць ды слёзы горкія ліць. Нашых мужыкоў ды братоў не вярнуць. Азірніся. Не адны мы такія на белым свеце: амаль у кожнай хаце па салдацкай удаве. Сама ведаеш, што ў некаторых жанок па трое дзетак у зямлянцы туляцца. А жыццё ж працягваецца. І ў нас з табою, Танечка, яшчэ маленькія дзеткі, якіх і вырасціць трэба, і ў людзі вывесці…

І сапраўды: увага, пяшчота і клопат малым трэба. А самота можа нават у магілу звесці, як Аляксандру Андронаву… Чатырохгадовая дачушка сіратою засталася. І што яна думала, тая Аляксандра, калі накінула сабе на шыю вяроўчыну? Хоць бы дзіцё пашкадавала. Добра, што свякроўка жывая, цяпер вось гадуе ўнучку.

Таццяна цяжка ўздыхнула, выцерла слязу, што прабегла па шчацэ. На нейкі момант уявіла сябе на месцы Аляксандры. Што тут казаць! Вядома ж, часам таксама апаноўвалі адчай і самота. А вось каб добраахвотна развітацца з жыццём — нават і думкі не было. Ніколі. А засталася ж з сыночкам без даху над галавой, жыла ў зямлянцы. Але ж свет не без добрых людзей! Запрасіла да сябе пажыць цётка Ульяна. Вяртацца ў родную вёску Таццяна не захацела. Пасля таго як на фронце загінуў адзіны яе брацік Іванка, якому і васямнаццаці не было, памёр ад ран бацька. Ды і старая хаціна падчас вайны згарэла. Разам з матуляй там туліліся яшчэ дзве малодшыя сястрычкі…

Загінуў на фронце і муж Таццяны, Алесь Ярмолін. Неяк маладая ўдава пайшла адведаць маці ў суседнюю вёску Перагост. Маленькага Васілька, сыночка цёткі Ульяны, таксама з сабою ўзяла. Пагаварыла з матуляй, з сястрычкамі, падзялілася ўдовіным горам… А калі выйшла за браму, заўважыла нейкі клунак, які падаўся знаёмым. Сэрца ёкнула ў грудзях ад нядобрага прадчування. Хуценька развязала тугі вузел. У клунку былі яе пасцельная бялізна, адзенне, дзіцячыя штонікі з кашуляй… Адразу здагадалася: справа рук зласлівай залвіцы!

Даўно ўжо трэба было Глашы звіць сямейнае гняздо, але ж, як на тое, заседзелася ў дзеўках: аднагодкі ваявалі на фронце, некаторыя ўжо загінулі. І толькі адзін хлопец застаўся на ўсю вёску — з хваробы камісавалі.

Па ўсім было бачна: жаніцца Антось пакуль не планаваў. І залвіца ўжо не толькі незадаволена пазірала ў бок прыгожай нявесткі, але нават раўнавала да Антона, калі той увечары зазіраў на агеньчык. Бывала і такое, што шаптала маці: маўляў, трэба ўжо Тані на дзверы паказаць.

Спачатку свякроўка спрабавала супакоіць дачку. Але потым саступіла ёй, адзінага ўнука не пашкадавала…

Аднойчы на сходзе старшыня калгаса Сымон Лёганькі сказаў, што салдацкія ўдовы не будуць абыдзены ўвагай. І тыя, хто застаўся без даху над галавою, хутка змогуць пабудаваць сабе жыллё.

На вуліцы, затрымаўшыся каля старой брамы, Таццяна азірнулася на сяброўку, рашуча прамовіла:

— Не крыўдуй, калі ласка, на мяне. Шчыры дзякуй за радасную навіну. Але ідзі, а я адна хачу пабыць.

Хадора ўсё зразумела. Цяжка ўздыхнула і пакрочыла далей, да людскога натоўпу.

З пякучымі слязамі на вачах Таццяна любавалася квітнеючай вішанькай і старым садам, дзе звонка спявалі птушкі.

# Ударны ліпень

**Іначай і не скажаш: айчынная літаратурная перыёдыка вельмі пацешыла. Па-першае, часопісы прапанавалі шмат якасных мастацкіх тэкстаў і займальных навуковых публікацый, і нават пра дэбютныя творы ў «Маладосці» можна казаць без авансаў. Па-другое, пэўныя тэмы і імёны вандруюць з часопіса ў часопіс, разбураючы прыкрую ізаляванасць — з'яву ў нашай літаратуры нярэдкую.**

## НІЧОГА, АПРОЧ ЛЮБОВІ

Безумоўна, параўноўваць дэбютанта з «самім Мапасанам» нельга. Нават майстар прозы Андрэй Федарэнка пры такім параўнанні сумеўся.

А ўсё ж нешта ад французскага генія ў кароткіх апавяданнях Марыі Комар ёсць. Пэўна, лаканічнасць, выразнасць штрыха, які і робіць карцінку запамінальнай. Прыкладам, апавяданне «Грушка» цяжка назваць арыгінальным. Праводзіцца паралель між самотнай старой і грушай каля хаты, старая памірае — груша не зацвітае (прывітанне ад Караткевіча). І вось аўтарка кінула на вобраз старой цень, які зрабіў выяву аб'ёмнай: тая, аказваецца, вядзьмарка. У кароткім творы знайшлося месца і самоце, і непаразуменню між людзьмі, і крыўдзе, і несправядлівасці. Шкада, што М. Комар не пазбавілася пакуль гэткай саладжавай інтанацыі, запазычанай, пэўна, не ў самых таленавітых прадстаўнікоў вясковай прозы.




Лепшыя рысы прозы М. Комар паўтараюцца ў апавяданні «Ахвяра Любека». Пачварнае былое прыўкраснага горада — што можа быць больш прывабным як для цікаўнага чытача, так і для мастака?.. Публіцыстычнасць стылю, сухасць у асобных момантах толькі падкрэслівае жудасць апісанага. Не зніжаецца планка і ў апошнім апавяданні падборкі «Паляванне». Зрэшты, гэта і не апавяданне, а навела, але, па ўсім бачна, з вызначэннем жанраў аўтары абыходзяцца вольна.

Цяжка сказаць, якое пытанне больш хвалюе маладога празаіка Яўгена Казарцава: каханне ці сапраўднасць (пачуцця, сябе, мастацтва). Пераасэнсаваўшы міф пра Галатэю, ён стварыў літаратурную ілюстрацыю да працы Эрыха Фрома «Мастацтва кахаць»: тое, што здавалася герою каханнем, выявілася апантанасцю, хваробай, а тое, што адпачатку не мела вялікага значэння, ператварылася ў «сапраўднае».

Аліна Паўлоўская, дэбютантка ў паэзіі, таксама піша пра каханне. Найбольш сталы і прафесійны ў падборцы верш «Вядзьмарка». Зварот да міфалогіі ўзмацняе твор (ці не яшчэ адзін доказ магічнай прыроды паэзіі?).

І зноў вялікае пачуццё — гэтым разам у казачным аздабленні. Алег Грушэцкі прапануе чытачу твор «Жаўнер і вужалка», стылізаваны пад фальклор. Але толькі стылізаваны, што асабліва заўважна, калі аўтар жартуе. Магчыма, казка падалася б сумнаватай праз сваю традыцыйнасць,але твор ратуюць злыдні — міфалагічныя персанажы, якія сталі ключавымі ў казцы, паказваюць, што і адмоўны персанаж мае станоўчыя якасці.

Вершы Вікторыі Смолка — узор дзявочай чысціні і ўзвышанасці. Мелодыі і ноты гучаць ці не ў кожным вершы, настрой — далікатны і крохкі. І праз гэта ў падборцы часам нібыта бракуе жыцця. Мяркую, спадарыні Вікторыі варта выпрабаваць талент у іншых тэмах, калі маладосцеўская падборка характарызуе творчасць аўтаркі ў цэлым.

Увогуле, ліпеньская «Маладосць» выявіла нязвыклую жанравую разнастайнасць. Дзмітрый Шулюк выступае з абразкамі, Марыя Цітарчук — з містычна-дэтэктыўнай гісторыяй, што магла б стаць неблагім серыялам (як літаратурны твор «Келіх Гекаты» мае мала шанцаў на поспех).

Асобна ў поўным кахання нумары стаіць публікацыя айца Яўстафія. Творы духоўных асоб заўжды цікава чытаць: ад іх мы чакаем адкрыцця, дапамогі, адказаў. Тут жа («Рымскі сплін») — адчайны пошук, пытанні і рэфлексія. Яшчэ меней радасці ў паэзіі айца Яўстафія, меркаваць хаця б па назве — «Беларускае галашэнне».

Таму апавяданне Адама Глобуса «Вільготная папера» чытаецца з палёгкай: тут шмат святла, якім у дзяцінстве поўніцца кожная дробязь.

Ад творчасці О. Генры можна атрымліваць асалоду альбо крытыкаваць (як у свой час рабілі многія) за нязменныя хэпі-энды і «нелітаратурнасць» (вядома ж, сапраўдная літаратура заўжды трагічная!). Але на пераклады некалькіх апавяданняў О. Генры, змешчаныя ў гэтым нумары «Маладосці», увагу абавязкова трэба звярнуць. Што праўда, у гучанні, якое надалі мове О. Генры перакладчыкі, не хапае ягоных выразнасці, лаканічнасці і з'едлівасці.

І яшчэ адзін «цвік» нумара — артыкул Віктара Саяпіна «Моладзевая субкультура Гродна 1960 — 1970-х», які нагадвае: нумар прысвечаны Гродзеншчыне (сведчаннем таму — матэрыялы пра Каложу, гісторыка-археалагічны музей, даўні Гродна ды інш.).

## ЦЯЖКАСЦІ ПЕРАКЛАДУ

Як і А. Глобус, Алена Папова вяртае чытача ў дзяцінства. Ліпеньскі «Нёман» адкрываецца яе аповесцю «Песня бліскучай хімеры». Цешыць, што твор надрукаваны цалкам: іначай чытач мог згубіць магічны настрой, створаны пісьменніцай.




Маша, цэнтральны герой аповесці, тонка адчувае настрой навакольных і гэтым нагадвае своеасаблівы сейсмометр, чуйны да найменшых зрухаў. Алена Папова прамаўляе непадробным голасам дзяўчынкі, затым — дзяўчыны і ўрэшце, пад заслону, жанчыны, у якой цяжка пазнаць тую самую Машу. Мова аўтара зачароўвае, асабліва — у першай палове твора, дзе яшчэ не прасочваецца сюжэтная лінія і падзеі звязаныя не прычынай-наступствам, але настроем, асацыяцыяй. Непасрэднасць, з якой гераіня ўспрымае свет, нагадвае Паліяну з твораў Элінар Портэр — з той толькі розніцай, што ў Э. Портэр свет адкрываецца дзівосна прыгожым, а ў А. Паповай дзіцячы позірк выхоплівае збольшага пачварнасць ды лжывасць.

Разам з галоўнай гераіняй эвалюцыянуюць і другасныя персанажы. Дзякуючы гэтаму, а таксама асабліваму стылю А. Паповай аповесць жыве, а значыць, чытаецца і будзе прачытаная многімі. Ці не варта выдаць «Песню бліскучай хімеры» асобным выданнем?..

У тым, што выслоўе «перакладчык у паэзіі — сапернік» мае рацыю, пераконвае лішні раз «Нёманская» падборка вершаў Васіля Зуёнка. І толькі калі бачыш імя аднаго з перакладчыкаў напрыканцы — Ізяслаў Катляроў, — усё становіцца зразумелым.

Менавіта пра цяжкасці перакладу распавядае Зінаіда Краснеўская. «За шклом» — гэта нататкі перакладчыка са стажам, у іх даволі адкрыццяў і радасці, цікавых успамінаў і сур'ёзных разваг. Да ўсяго, развагі не абмяжоўваюцца перакладам ды літаратурай. Асаблівай жа ўвагі вартае заканчэнне нататак, дзе З. Краснеўская звяртаецца наўпрост да родзічаў выбітнага празаіка Анатоля Кудраўца: перакладчыца просіць дазволу пераствараць яго апавяданне «Познія яблыкі» па-англійску. Пачынанне вартае падтрымкі.

Цудоўная, далікатная паэзія Юрыя Мацюшкі з ненавязлівымі, але выразнымі рыфмамі, гнуткім радком і светлым настроем можа даць той самы спакой, якога мы дарма шукалі ў маладосцеўскіх творах айца Яўстафія. Калі б вершы спадара Юрыя перакладалі на мову выяўленчага мастацтва, атрымаліся б сонечныя, лёгкія акварэлі.

Усё яшчэ «гучыць» у літаратурнай перыёдыцы Вялікая Айчынная вайна: «Нёман» друкуе «Лісты» Яўгена Галайдзіна і падборку вершаў удзельнікаў ваенна-мастацкай студыі пісьменнікаў. Як ні парадаксальна, лепшыя творы тут належаць жанчынам.

Сусветная літаратура прадстаўленая творамі Джо Алекса (Мацей Сламчынскі), імя якога чытачам «Нёмана» мусіць быць вядома, і Леконта дэ Ліля, чые вершы і паэмы варта чытаць асобна, адмыслова вылучыўшы пад гэтую справу спакойны дзень: мова і будова твораў дэ Ліля далёка не простыя, а гукапіс, перададзены Георгіем Кісялёвым, трэба ацэньваць не спяшаючыся.

## З «МАЛАДОСЦІ» ДЫ Ў «ПОЛЫМЯ»

Герой Адама Глобуса падрос і цяпер навучаецца ў мастацкай студыі. Яго ўспаміны, сабраныя пад назвай «Вучэльня» і надрукаваныя ў ліпеньскім «Полымі», падаюцца стракатым вітражом. Ён збольшага складаецца з двух «матэрыялаў» — людзей і фарбаў. Людзі — куміры, аднакласнікі, дзяўчаты, натуршчыкі, мастакі, бяздарнасці, непрыяцелі… Фарбы ж ператвараюцца ў водары, водары ўвасабляюцца ў словы. Згадваючы адзін выпадак, кладучы адзін штрых на старонку аповеду, А. Глобус стварае яркія партрэты сучаснікаў.

У гэтым жа нумары друкуецца заканчэнне рамана Уладзіміра Гніламёдава «Пасля вайны». Упэўненая, літаратуразнаўцы неўзабаве прапануюць грунтоўны аналіз твора, я ж зазначу толькі, што стыль У. Гніламёдава па-ранейшаму лаканічны, быццам аўтар вядзе справаздачу пра побыт і духоўнае жыццё сваіх герояў. Дэталёвыя дэкарацыі і падрабязны аповед паказваюць, як важна для яго ўзнавіць і ажывіць даўно мінулае.

«Жыццё праляціць праз ступеньчаты, / Свабодны паверхавы блок…» — два гэтыя радкі Алеся Каранеўскага вартыя ўсёй яго падборкі ў ліпеньскім «Полымі». Вырваныя з твора, яны шмат губляюць, таму лепш разгарніце «Полымя» на старонцы 95.

Пісьменнікі любяць папрыгадваць былое і, пэўна, праз гэта занатоўваюць так апантана ўсё да драбніц. Віктар Шніп, напрыклад, працягвае друкаваць дзённік, які вядзе на старонцы ў Фэйсбуку. Заўсёдным чытачам «ЛіМа» запісы В. Шніпа будуць цікавыя перадусім таму, што многія прозвішчы, якія згадвае паэт, ім вядомыя. Не сакрэт, што беларускамоўная культурная прастора — вёска, дзе ўсе адно аднаго ведаюць. Але ці разгорне гэтыя свежаспечаныя мемуары чытач, далёкі ад белліту?..

Пэўна ж, так, бо ў нататках В. Шніпа знойдзецца ўсё: настальгія, любоў да бацькоў і сум па іх, смех са штодзённага, радасці і надзеі, стомленасць і захапленні. З такога пункту гледжання «Заўтра была адліга» (як першая частка, так і другая) — вялікае люстра, у якое зазіраюць шматлікія мінакі. Кожны ўбачыць сябе — так ці іначай.

«Галасы свету» гэтым разам прамаўляюць па-сербску. Даводзілася неяк чуць, што сербы і беларусы падобныя (як і ўсе «малыя» народы, напэўна). Але пачытаўшы падборку сучаснай сербскай паэзіі ў перакладах Івана Чароты, хутчэй заўважыш адрозненне, чым падабенства. Беларуская паэтычная туга ніколі не замыкаецца на сабе. Нашым паэтам моцна дапамагае сувязь з прыродай, да яе звяртаюцца ў вершах, з яе бяруць сілы, натхненне, выплёскваюць усё благое, раскрываючы душу. Сербскія паэты інакшыя (прынамсі, мяркуючы па «Палымянскай» падборцы). Іх боль віруе ў замкнёнай сістэме, і нават калі ён прарываецца вонкі, то не хаатычна, а ўгору — да нябёсаў, прычым у рэлігійным сэнсе. Яшчэ адна адметнасць паэтаў Сербіі — самаіронія.

Цешыць, што зноў сустракаецца імя Анатоля Кудраўца: даследчыца Алена Крыклівец разглядае экзістэнцыяльную праблематыку яго прозы і прозы В. Распуціна. Што да артыкула Алены Масла «Філасофія любові», прысвечанага стэрэатыпам датычна беларускай дзіцячай літаратуры, — гэты тэкст я б размножыла да найбольшага магчымага ліку і даслала ў кожную беларускую школу, ВНУ і бібліятэку.




І як працяг тэмы, якая сёлета абмяркоўваецца надзвычай актыўна, асабліва на старонках «Полымя», — артыкул Віктара Раманчука пра творы Уладзіміра Дубоўкі, адрасаваныя дзецям, а таксама навуковая публікацыя Лады Алейнік «Роля дзіцячага досведу ў сацыялізацыі асобы». Магчыма, гучыць не вельмі прывабна, але стаўленне мусіць змяніцца, калі я скажу, што літаратурнай глебай для разваг даследчыцы стаўся твор Сяргея Верацілы.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Не толькі пра каханне

**Калі аўтары кнігі — толькі жанчыны, а ў анатацыі пазначана «зборнік сучаснай жаночай прозы», то магчымыя чытачкі адразу зацікавяцца, наколькі гэта сур'ёзна, а чытачы задумаюцца, у якой ступені ім будзе карыснае гэтае выданне. Варта адразу адзначыць, што пяць твораў, сабраных у кнізе, — не просценькія гісторыі кахання, а мастацкая проза высокага гатунку. Аўтаркам аднолькава ўласцівы абаяльнасць і грацыёзнасць, здольнасць пісаць прыгожа, лёгка і раз-пораз здзіўляць арыгінальнай думкай.**

Розныя аўтары — розны светапогляд, розныя тэмы і розныя гераіні. Маркетолаг з фірмы еўравокнаў можа раптам заўважыць уласныя рысы ў характары не вельмі паспяховай актрысы, а не вельмі паспяховая актрыса — пазнаць сябе ў адухоўленай карэннай пецярбуржцы. Адпаведна, «Невымоўнае каханне» можна падараваць любой знаёмай спадарыні ад дваццаці гадоў з нагоды нейкай значнай падзеі. Узроставыя абмежаванні можна было б не пазначаць, каб не аднайменная зборніку аповесць Алены Афанасьевай. Твор складаецца з дзевяці гісторый пра здзейсненае і нязздзейсненае каханне, і гэтая лічба ўскосна сведчыць, што адлюстраваны досвет не зусім адпавядае традыцыйнаму ідэалу, на якім выхоўваюць дзяўчат-падлеткаў. Да таго ж, у юнацтве сумнавата чытаць пра мужчын-аматараў «ам», «бах» і «трах» ці бесперспектыўную love-story з італьянцам.

Аповесць А. Афанасьевай — цікавы ўзор таго, як можна адкрыта асэнсоўваць свае адносіны з мужчынамі — не скандальна ці правакатыўна, а лірычна і цёпла, без крыўды ды зламыснасці. Магчыма, гэтая цеплыня, удзячнасць лёсу і былым знаёмым за шчаслівыя хвіліны дапаможа чытачкам пераасэнсаваць уласнае мінулае і ўбачыць яго ў больш светлых фарбах...

Аповесць А. Афанасьевай, як і эсэ З. Краснеўскай, верагодна, будзе лепш успрымацца жанчынамі праз магчымую блізкасць жыццёвага досведу. Разам з тым раман Веры Зелянко і апавяданне Мары Русавай, што займаюць больш як палову кнігі, не адрасуюцца выключна жаночай аўдыторыі. Раман В. Зелянко «Не памерці ад ісціны» спадабаецца аматарам мастацтва і тэатра. Стомлены жыццём таленавіты артыст нярэдка робіцца галоўным героем раманаў, а вось старая актрыса баба Соня — персанаж больш дзіўны і непрадказальны. Тэатральнае жыццё паўстае такім, як мы прызвычаіліся пра яго чытаць: інтрыгі, падступства, зайздрасць, любоўныя трохкутнікі... Але карагод жанчын, закаханых у таленавітага Сяргея (першая між імі — баба Соня), перыядычныя згадкі пра Лілю Брык, Уладзіміра Маякоўскага ды іншых вядомых асоб павінны завабіць чытача ў складаную гісторыю акцёрскіх прыхільнасцей і антыпатый. Стыль пісьменніцы адпавядае светаадчуванню расчараванага галоўнага героя — усё супярэчліва, заблытана, надламана...

Трагічным атрымалася і апавяданне Мары Русавай «Сэнс жыцця ў самім жыцці». Аўтарка звяртаецца да чорнага часу сталінскіх рэпрэсій, якому папярэднічаў не лепшы для многіх перыяд яўрэйскіх пагромаў. Насельнікі Зарэчанска жывуць маленькімі радасцямі і ставяцца адзін да аднаго даволі добразычліва. Жахлівыя прывіды зла — чарнасоценцы ды крытыя грузавікі — з'яўляюцца аднекуль звонку і заспяваюць зарэчанцаў здзіўленымі, разгубленымі, безабароннымі. Яўрэйка Соня страчвае спачатку братоў, потым мужа і недзе між будзёнымі падзеямі — надзею на шчаслівы жаночы лёс, які ў гэтым выпадку немагчымы без уласнай вясёлай дзятвы.

Недалёкая Сонечка — не самы сур'ёзны патэнцыяльны вораг савецкай улады, яна магла б выжыць у перыяд рэпрэсій, стаць выдатнай выхавацелькай у дзіцячым садку. Але фінал апавядання сумны: «Зніклі яшчэ два чалавекі з мільярдаў-мільярдаў, зніклі, як жменька праху пад бязлітаснымі коламі паступальнага руху свету. Руху куды?..» Магчыма, твор грунтуецца на рэальнай гісторыі — пэўна, такіх жаночых лёсаў было нямала. Назва апавядання — сцвярджэнне каштоўнасці жыцця кожнага чалавека. Але выхаваць разуменне каштоўнасці ўласнай і чужой душы зусім не проста, і сучасная культурная вытворчасць не заўсёды мае гэта на мэце.

Эсэ З. Краснеўскай «Людзі і рэчы» — гэта «гісторыі пра мінулае, у цэнтры якіх, як ні дзіўна, не столькі падзеі, колькі звычайныя жыццёвыя рэчы ў іх узаемадзеянні з дарагімі асобамі». Графін, пярсцёнак, пацеркі, акварэль — для жанчыны такія рэчы не забаўка і не прыхамаць, а магчымасць самавыяўлення, радасць штодзённых, нават штохвілінных сустрэч з прыгажосцю. Кубачак з тонкай парцаляны, у якім на донцы намаляваная пунсовая ружа, можа больш за ўсё ўразіць падчас гасцявання ў генеральскім доме, а цудоўная крышталёвая скрыначка будзе заўсёды нагадваць пра колішніх знаёмых.




*Неизъяснимая любовь : современная женская проза / сост., авт. вступ. ст. О. А. Ждан. — Минск : Звязда, 2014. — 400 с. — (Библиотека журнала «Нёман»).*

Вядома, для аўтаркі істотныя тыя прадметы, якія маюць цікавую гісторыю ці пэўную эстэтычную каштоўнасць. Для чытача дэмакратычнай беларускай прозы захапленне дарагімі густоўнымі рэчамі можа выклікаць лёгкую няўтульнасць — але нязвыклы погляд таксама прываблівае! Эсэ «Людзі і рэчы» асабліва спадабаецца тым, хто любіць інтэлектуальную кампанію, бо З. Краснеўская і В. Зелянко выяўляюцца як вельмі эрудзіраваныя аўтаркі. Чытачы, якім ужо даводзілася знаёміцца з успамінамі альбо ўступнымі артыкуламі З. Краснеўскай, з задавальненнем пазнаёмяцца з новым творам перакладчыцы.

Самы выбітны паводле задумы і мэты тэкст зборніка — аповесць Алены Паповай «Тры дамы ў пошуках кахання і смерці». Сучасныя празаікі любяць змрочна апісваць сацыяльныя і асабістыя праблемы, ігнаруючы пры гэтым адвечнае пытанне «А што рабіць?». Адчуванне гнятлівай безвыходнасці — не той настрой, дзеля якога хочацца чытаць мастацкую літаратуру...

А. Папова таксама звяртаецца да праблем міжасабовых дачыненняў, але праз апісанне шасці любоўных гісторый непрыкметна дапамагае разабрацца ў сабе, супаставіць уласныя паводзіны з учынкамі Крыжовай, Звонкавай і Чырвовай дамаў, скарэкціраваць стасункі з блізкімі людзьмі. Тры кабеты сталага веку зазіраюць у невялікую прыдарожную кавярню і праз дзверы дамскага пакоя трапляюць у мінулае. Сяброўкі бачаць саміх сябе ў вызначальныя моманты жыцця — калі з нерашучасці ці самалюбства зрабілі няправільныя ўчынкі, якія прадвызначылі іх будучую адзіноту. Паводле аповесці, хэпі-энд у пошуках кахання можа быць толькі адзін: сямейная гармонія і клопаты пра ўнукаў. Нагадваць пра галоўныя прынцыпы ўзаемаадносін варта не толькі ў выхаваўчай «падлеткавай літаратуры», але і ў творах для дарослых: каб чытач «не адхіляўся ад курсу» і часцей прымаў канструктыўныя рашэнні. У аповесці А. Паповай шмат іроніі ды жартаў, напісаная яна напалову гутарковым стылем, таму чытаць яе будуць з удзячнасцю!

Такім чынам, калі «Невымоўнае каханне» патрапіць у сямейную бібліятэку, чытачы і чытачкі featured рознага ўзросту і розных густаў знойдуць для сябе цікавыя старонкі, магчыма, здзівяцца таленту беларускіх аўтарак і выявяць большую ўвагу да часопіса «Нёман». Творы, якія ўвайшлі ў кнігу, у свой час друкаваліся ў гэтым перыядычным выданні, і рэдагаваў іх шаноўны Алег Ждан — аўтар прадмовы і ўкладальнік зборніка.

Верагодна, чытачы не адмовіліся б пазнаёміцца з іншымі творамі Веры Зелянко ці Мары Русавай — але хто гэтыя цудоўныя незнаёмкі? Звестак пра аўтараў у кнізе няма, іх фотаздымкаў таксама... А. Ждан у некалькіх словах распавядае пра З. Краснеўскую і А. Папову, але пра іншых творцаў нічога невядома. Інтэрнэт-пошукі — справа рызыкоўная, бо між рускамоўных аўтараў можа апынуцца нямала людзей з аднолькавым імем і прозвішчам. Таму, каб атрымаць верную інфармацыю ў пошукавым радку, неабходна ўводзіць кодавае слова «Нёман»!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Прыколы на колах

**Няўрымслівы «Вожык» перасеў за стырно машыны, каб паказаць, якім мусіць быць сапраўдны кіроўца.**

Чытаем у ліпеньскім нумары часопіса гумарэску Андрэя Сідарэйкі «Гараж» пра самае спакойнае для мужчын месца, замалёўку з натуры «Афрыканскі матацыкліст» ад Ганны Атрошчанкі і быль «Аўтааматары» ад Міхаіла Маскальчука. Не пакіньце па-за ўвагай і «аўтамабільную паэзію»: самотнае «Расчараванне» Уладзіміра Цанупіна, «Гора-шафёраў» Галіны Нупрэйчык, антыпараду Анатоля Зэкава «Як трапіць у ДАІ?». Будзьце гатовыя ўбачыць дрэсіроўку машын, матацыкл з басейнам, пазадарожнік на ножках, Бабу-Ягу за рулём і кентаўра на колах ад вожыкаўскіх карыкатурыстаў — Алега Гуцола, Аляксандра Каршакевіча, Алега Папова ды Алега Карповіча.

На старонках часопіса знойдуцца малюнкі і на іншыя тэмы: пра хуткую стаматалагічную дапамогу, натуршчыц і мадэлізм, модных пенсіянераў, урачыстае шэсце прусакоў...

Мікалай Глеб паэтычна распавядае, што патрэбна для шчасця павуку і молі, Лявон Анціпенка спрабуе адшукаць апраўданне гультаям, а Аляксей Русіновіч выкрывае чайнікаў-начальнікаў. Выдатныя вершы знойдуцца




і «на Парнасе»: Расціслаў Бензярук узгадвае, «Як Пегас заржаў не ў час», а Рэгіна Рэўтовіч у вершы «Кулінарны цуд» дзеліцца паэтычным рэцэптам.

Шчырыя віншаванні выказвае «Вожык» свайму даўняму сябру, вядомаму гумарысту і сатырыку Барысу Кавалерчыку — сапраўднаму майстру афарызма, які адзначыў 80-годдзе.

Убачыць ляльку-мутанта можна ў рубрыцы «Вожыку пішуць...», а пачытаць пра дарожных «кунгфуістаў», няўдалае браканьерства і злога гаспадара сабакі — у «Навінах з МУС: матай на вус...». На сеансе «Іголкатэрапіі» гаворка ідзе пра нятанныя грахі, недабудаваную каналізацыю і няўдалую маскіроўку псеўдапрадпрымальніц.

«Упершыню ў "Вожыку"» з'явілася Вераніка Мандзік — рэдактар аддзела літаратуры часопіса, якая сцвярджае: інтэлект і пачуццё гумару непадзельныя.

У «Калючыку» маленькія чытачы знойдуць цікавыя загадкі ад Вольгі Лабажэвіч, а таксама казку Лёлі Багдановіч «Не ў капялюшыку справа», да якой можна самастойна зрабіць прыгожыя папяровыя сувеніры.

Праверыць веданне вершаў і прыказак дапаможа Лявон Целеш і ягоная крыжаванка «Спрытны вожык».

Адпачывайце разам з «Вожыкам»!

**Ганна КІСЛУШЧАНКА**

Аблічча

# Поўня над Шчарай

У сакавіку 1969 года я з магнітафонам «Рамантык» наведаў кватэру Рыгора Барадуліна на вуліцы, якая сёння называецца Раманаўская Слабада. Там гасцявалі мама Рыгора Акуліна Андрэеўна і навуковец з Акадэміі навук Мікола Грынчык з жонкай Любоўю Аляксееўнай. Некалькі вушацкіх песень, якія аказаліся блізкімі па гучанні з песнямі з майго прыдзвінскага берага, выгукнула цётка Куліна. Ад цёткі Любы змясцілася на магнітафонную стужку ажно 40 народных песень. Самі Грынчыкі — з вёскі Быцень (Бытэнь — у вымаўленні цёткі Любы) Івацэвіцкага раёна. Вось якое я меў тады сакавіцкае адкрыццё! Цётка Люба, 1923 года нараджэння, захавала духоўныя гучальныя скарбы былой Заходняй Беларусі, дзе народнымі песнямі сталі вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Сяргея Новіка-Пеюна… «Так, — распавядала Цётка Люба, — купалаўскі гімн «Не загаснуць зоркі ў небе» падымаў народ, пяшчотна гучала ў тыя часы песня на словы паэта з Нёмана «Ліпы старыя», а без песень «Зорачкі», «Над Шчарай» («Слонімскі вальс») Новіка-Пеюна не абыходзілася ніводная наша бяседа…»

Я яшчэ паспеў у новым тысячагоддзі перадаць Любові Аляксееўне Грынчык дыск з алічбаванымі ў Акадэміі музыкі запісамі яе песень. А тыя зорачкі, якія загарэліся нада мною ў 1969 годзе, паказалі дарогу да аўтара — паэта Сяргея Міхайлавіча Новіка-Пеюна. Перажыўшы жорсткія выпрабаванні, ён з 1960 года жыў у Мінску. І сам друкаваўся ў прэсе, і пра яго пісалі Аляксей Пяткевіч, Алег Лойка… Першая публікацыя — «Іскра з вогнішча» Арсеня Ліса — была змешчана ў газеце «Літаратура і мастацтва» 22 лютага 1966 г.

У другой палове 1970-х Малады Дзядок на адной з цікавых сустрэч перадаў мне фотакопію свайго малюнка з надпісам: «Царква ў сяле Блячын была пабудавана ў 1621 г. на сродкі Адама і Анны Магільніцкіх». Малюнак тушшу пазначаны 1926 годам, калі Сяргей Міхайлавіч пасля вучобы ў Нясвіжы ў сваіх родных Лявонавічах стварыў гурток ТБШ, бібліятэку, тайную школу, за што і быў пакараны акупацыйнымі ўладамі. Яго аповеды пра Нясвіж, Лявонавічы, Блячын так зацікавілі мяне, што я сабраўся прайсціся яго жыццёвымі сцежкамі. Наведаў аднойчы і Клецкі раён. Але Блячына ўжо не існавала: не спадабаўся айконім з XVI стагоддзя. У вёсцы Садовая і царквы з малюнка Сяргея Міхайлавіча не знайшлося. Мне расказалі з горыччу, што калі яшчэ кіпела барацьба з рэлігіяй, старшыні сельсавета прапанавалі або застацца на пасадзе, або знішчыць драўляную бажніцу. Той наняў малойцаў, і яны тросамі, ламамі разбурылі найстарэйшую ва ўсёй акрузе, а таму і найбагацейшую царкву. Жанчыны кідаліся пад ламы, каб ацалелі хоць некаторыя іконы.



Фота Сяргея Панізніка.

Сяргей Новік-Пяюн на мінскім пасадзе. Кастрычнік 1989 г.

Мяне ў Садовай заводзілі ў хаты, і я там пад усхліпы гаспадынь бачыў вялізныя, аж пад столь, незвычайнай прыгажосці абразы. Параскіданымі, як мне паведамілі, былі і шматтомная бібліятэка, і даўнія царкоўныя архівы. Настаўніца мясцовай школы прызналася, што тады пачала збіраць рарытэты для стварэння музея, але памяшкання не далі, і яна знайшла прытулак для будучых экспанатаў на гарышчы школы. Пажарная інспекцыя загадала тэрмінова ачысціць гарышча. Прыехаў грузавік… І паболела попелу на радзіннай зямлі Незабытоўскіх, Карскіх, на зацíхлых слядах Сяргея Новіка-Пеюна.

Не маю як суцешыць сёння аўтара малюнка царквы ў Блячыне, каб паведаміць, што ў Садовай праз некалькі гадоў была ўсё ж узведзена каменная царква на месцы той самай, 1621 года нараджэння.

У 1984 годзе паэт быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў, калі і выйшаў ужо згаданы зборнік «Заўсёды з песняй» (паэма, вершы, песні, творы для дзяцей). А ў 1993 годзе я атрымаў ад Сяргея Міхайлавіча яго зборнік «Песні з-за кратаў» (вершы, песні, паэмы) — «*…на шчыры ўспамін з глыбокай пашанай і ўдзячнасцю*».

Праз год паэт адышоў на той мацярык, дзе і нарадзіўся, на могілкі ў Лявонавічах. Але не стаўся забытым у прытульным для яго Мінску. Памятаю лістападаўскую вечарыну 2001 года ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, прысвечаную 95-й гадавіне з дня нараджэння Новіка-Пеюна. Мы пазнаёміліся з цікавым архівам паэта, які захоўваецца ў музеі, угледзеліся ў дароўныя надпісы на кнігах яго сяброў, у экспанаты «ад паплечнікаў па Калыме». А я ўспамінаю мой здымак, калі перад намі нечакана з'явіўся Сяргей Міхайлавіч у гулагаўскай вопратцы. І жорсткая памяць — незнішчальная.

На вечарыне 2001 года я прачытаў верш-прысвячэнне «Хроснік Янкі Купалы»:

*Паэтаў планіда не кратае*
*рукамі лагоды.*
*Яна чацвяртуе за кратамі*
*крукамі нягоды.*
*На годы ссылае без споведзі*
*у зімную безлюдзь.*
*У катаў паэты — для поедзі…*
*Ды — костхаю — песня!*
*І «Зорачкі» з лагернай наледзі*
*прыходзяць на помач.*
*Быў Янка Купала — у памяці.*
*І ў памяці — Поўнач.*
*О «Сэрца, не плач!»*
*З горкай чараю*
*і словам сыноўнім*
*нам — воля! І поўня над Шчараю*
*вальсуе на Слонім.*

Не так даўно пісьменнік Алесь Карлюкевіч у «Краязнаўчай газеце» (№ 9, сакавік, 2013 г.) выявіў глыбокую зацікаўленасць біяграфіяй і творчасцю паэта Сяргея Новіка-Пеюна, праўдзіва раскрыў многія старонкі яго жыццяпісу. На заканчэнне свайго артыкула, узгадаўшы архіў Сяргея Міхайлавіча, Алесь Мікалаевіч выказаў надзею: «Мажліва, прыйдзе час, і з яго дапамогай якое з выдавецтваў выпусціць у свет грунтоўны том спадчыны Маладога Дзядка (адзін з псеўданімаў заходнебеларускага паэта). Відаць, і эпістальярная спадчына зойме ў ім адпаведнае месца».

Хай нябёсы спраўдзяць такія пажаданні, бо наперадзе сімвалічная дата: спаўняецца 90 гадоў ад першай публікацыі паэта! У часопісе «Студэнцкая думка» (№ 4, 1925 г.) быў надрукаваны верш Новіка-Пеюна «Не бядуй». Не будзем бедаваць і мы разам з поўняй над Шчараю, якая ўсё яшчэ вальсуе на Слонім.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

За падзеяй

# Назад, у пяцідзясятыя

**По добрай традыцыі штогод падчас святкавання Дня горада Брэста каля Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. С. Пушкіна на свята кнігі «Бульвар, дзе чытаюць» збіраецца шмат жыхароў і гасцей горада.**

Сёлета аматарам друкаванага слова быў прапанаваны экскурс у гісторыю горада 1950-х гадоў. Цікавыя выстаўкі, падрыхтаваныя супрацоўнікамі кніжніцы, дапамаглі ўспомніць або даведацца пра падзеі той эпохі, адчуць подых часу.

— Стыльная вінтаж-акцыя «Спадніца — сонца, штаны — клёш» аб'яднала на сваёй пляцоўцы прыхільнікаў рэтра, якія змаглі патанцаваць, паслухаць музыку і нават зрабіць макіяж ды фотасесію ў стылі пяцідзясятых гадоў, — распавяла загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Брэсцкай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Святлана Гарадзецкая.

Сёлетні «Бульвар, дзе чытаюць» стаў сапраўдным увасабленнем сацыяльнага партнёрства. Канцэртная праграма з удзелам юных спевакоў — Ганны Ермаковіч, Ангеліны Піпер, Аляксея Маата ды іншых спрыяла святочнаму настрою. Удзельнікі клуба ваенна-гістарычнай рэканструкцыі «Рубеж» прадставілі інсцэніроўку з жыцця пачатку 1950-х гадоў. А члены клуба «BreStarDance» пад кіраўніцтвам Аляксандра Чарнова арганізавалі танцавальны флэшмоб.

Брэсцкі абласны краязнаўчы музей і ЦГБ імя А. С. Пушкіна падрыхтавалі цікавую інтэр'ерную экспазіцыю, якая карысталася папулярнасцю ў аматараў незвычайных фотасесій, як і аўтамабіль «Волга» ад клуба рэтра-аўтамабіляў «Адам». Галерэя кніжных і фотавыставак прадставіла рэдкія экзэмпляры кніг 1950-х гадоў выдання з фондаў Брэсцкай ГЦБС, унікальныя фотаздымкі Брэста тых часоў.



Галоўным момантам свята стаў паэтычны марафон з удзелам таленавітых мастакоў слова Берасцейшчыны, на які сёлета выйшлі не толькі майстры прыгожага пісьменства — Зінаіда Дудзюк, Іван Мельнічук, Любоў Красеўская ды іншыя, — але і зусім маладыя прадстаўнікі творчага маладзёжнага руху «Бульвар» — Улад Чынін і Карына Казаран.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Святарства: калектыўны партрэт

Не так даўно ў выдавецтве «Беларусь» пабачыла свет грунтоўнае даследаванне Дзяніса Лісейчыкава «Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596 — 1839 гг». Гэта ўжо трэцяя кніга навукоўца, прысвечаная вывучэнню ўніяцкага святарства на беларускіх землях. Спачатку выйшла крыніцазнаўчае даследаванне візітаў уніяцкіх цэркваў XVII ст., другая кніга даследчыка прысвячалася штодзённаму жыццю святароў, новае ж выданне прадстаўляе маштабны погляд на лёсы прадстаўнікоў гэтай сацыяльнай групы на вялікай тэрыторыі — практычна ўсяго ВКЛ, Падляшская ваяводства Каралеўства Польскага, Інфлянты і Курляндыі (тэрыторыя сённяшняй Латвіі). Пра адметнасці новага даследавання, значэнне тэрміна «прасапаграфія», а таксама практычную значнасць кнігі мы гутарым з аўтарам — кандыдатам гістарычных навук, намеснікам дырэктара Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Дзянісам Лісейчыкавым.

**— Дзяніс Васільевіч, распавядзіце гісторыю напісання гэтай кнігі.**

— Першапачаткова я не ўяўляў дакладнага плана і фармату працы. Не было такога, што паклаў перад сабой чысты аркуш і пачаў пісаць. Падобныя праекты ствараюцца паралельна з іншымі, да прыкладу, кандыдацкай дысертацыяй. Чым глыбей вывучаеш праблему — тым дакладней разумееш, у якім накірунку можна рухацца, якія пытанні да цябе ніхто не разглядаў. Яшчэ гадоў пятнаццаць таму, калі я толькі пачынаў вывучаць гісторыю ўніяцкай царквы, заўважыў, што ніхто ніколі сур'ёзна не вывучаў асоб саміх святароў. Заўважыў, што пры адной і той жа царкве ў розныя гады сустракаюцца людзі з аднолькавымі прозвішчамі. Стала цікава, ці сваякі яны. Так паступова склалася разуменне, што трэба збіраць біяграфічныя звесткі пра кожнага са святароў. Думаў адразу спыніцца, апрацаваўшы пэўнае кола крыніц — візітаў уніяцкіх цэркваў. Назбіралася 2500 біяграфій. Затым кола крыніц пашырылася, стала больш і біяграфій — 4 тысячы. З кожным новым годам я разумеў, што такіх матэрыялаў будзе ўсё больш і больш, таму паставіў для сябе мяжу ў 10 тысяч чалавек для падвядзення першых вынікаў. Але ўпэўнены, што і на гэтым праца па вывучэнні біяграфій уніяцкіх святароў не скончыцца. Зараз я спыніўся на лічбе 8500 імёнаў, пазней буду працягваць даследаванні, рыхтаваць другое выданне, дапрацаванае і дапоўненае.

**— Можна сцвярджаць, што гэтая кніга — калектыўная біяграфія 8500 уніяцкіх святароў?**

— Так і ёсць. Першапачаткова звесткі пра святароў збіраліся паводле пэўнай схемы: было важна выявіць год, месца нараджэння, хрышчэння, вучобы, службы, склад сям'і. Пазней, калі стала шмат звестак, якія маглі падлягаць пэўнаму аналізу, з'явілася ідэя не проста выдаць даведнік з біяграфіямі, але правесці так званае прасапаграфічнае даследаванне — на падставе сабраных звестак зрабіць пэўныя высновы: і пра памер сем'яў, і пра колькасць святароў, высвечаных у цалібаце, і пра колькасць тых, хто быў у шлюбе не адзін раз, якія імёны самыя распаўсюджаныя ў сем'ях уніяцкіх святароў, як часта сустракаецца імя Ясафат — своеасаблівы «маркёр» уніі, ці часта сустракаецца імя Напалеон. Сёння нам складана ўявіць бацюшку з іменем Напалеон, але такія былі. На падставе сабраных звестак удалося падрыхтаваць разгорнутую тэарэтычную частку, якая дае адказы на многія пытанні.




**— А якія імёны самыя распаўсюджаныя ў сем'ях уніяцкіх святароў?**

— Мужчынскае — Ян, ён на першым месцы з адрывам працэнтаў на трыста ад наступных за ім Іосіфа і Васіля, а жаночае — Ганна.

**— Хто чытач вашай кнігі? На якую аўдыторыю вы арыентаваліся падчас працы над выданнем?**

— Першапачаткова я збіраў звесткі для сябе, каб пад рукой мець даведнік па святарах, але праз некалькі гадоў зразумеў, што гэтыя звесткі патрабуюць увядзення ў шырокі навуковы ўжытак. Многіх людзей цікавіць гісторыя малой радзімы, дзе была царква, існавала парафія, сярод продкаў многіх беларусаў ёсць выхадцы з духавенства. Прыемна, калі людзі звяртаюцца, дзякуюць, што ў выданні згаданы іх продкі. Нашчадкі старажытных святарскіх родаў адгукаюцца нават з Масквы і Краснадара. Безумоўна, чытачамі будуць тыя, хто займаецца вывучэннем уласнага радаводу, краязнаўцы, супрацоўнікі краязнаўчых музеяў, якія таксама шукаюць звесткі пра тых, хто ў старажытнасці жыў і працаваў у розных кутках былога Вялікага Княства Літоўскага. Зацікавіць кніга і супрацоўнікаў бібліятэк, ім праца дапаможа ідэнтыфікаваць, каму магла належаць тая ці іншая кніга XVII ці XIX ст. з царкоўных збораў з інскрыпцыямі на палях. А тэарэтычная частка даследавання будзе карысная тым, хто вывучае сацыяльную гісторыю, бо часта многія працэсы ў культуры і эканоміцы нашай краіны дэперсаніфікаваныя. Мы прывыклі гаварыць пра духавенства (ці іншы пласт грамадства) як пра нешта агульнае, аднароднае і адназначнае. А гісторыя — гэта не столькі даты і працэсы, як прынята лічыць, колькі канкрэтныя людзі.

**— Што стала асновай для напісання даследавання? Дзе захоўваюцца дакументы, з якімі вы працавалі?**

— У першую чаргу я працаваў з фондамі Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, а таксама прапрацоўваў дакументы, што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне, Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы і аддзеле рукапісаў Бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх у Вільнюсе, Дзяржаўным архіве ў Любліне, Дзяржаўным гістарычным архіве Латвіі ў Рызе, а таксама Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу. Мне вельмі прыемна, што рэцэнзентамі кнігі пагадзіліся выступіць вядомыя ў свеце навукоўцы. Гэта прафесары з Польшчы, Украіны і ЗША — вядомыя даследчыкі гісторыі хрысціянскіх цэркваў Анджэй Гіль, Ігар Скачыляс і Барбара Скінэр.

**— У сваім даследаванні вы адзначаеце, што ў сем'ях уніяцкіх святароў былі адметныя метады выхавання. Як жа выхоўваліся дзеці?**

— Святарская супольнасць цікавая тым, што, у адрозненне ад іншых, нават самых прывілеяваных пластоў грамадства, магнатаў і шляхты, гэта была цалкам пісьменная супольнасць. Непісьменны святар — нонсэнс, ён мусіў ведаць літары, умець весці набажэнствы паводле літургічных кніг, зрабіць запіс у метрычнай кнізе. Таму ўсіх хлопчыкаў у святарскай сям'і, якія павінны былі прадаўжаць бацькаву справу, з самых малых гадоў вучылі грамаце. Школы былі даступныя і для шляхты, і для мяшчан, але стапрацэнтнай пісьменнасці ні ў адной тагачаснай сацыяльнай групе, апрача духавенства, нельга прыгадаць. Такім чынам, для хлопчыкаў са святарскіх сем'яў адкрываўся свет кніжнай культуры. Яны маглі чытаць не толькі літургічныя кнігі, але і літаратуру, якая насіла прыкметы папулярнага стылю, на царкоўнаславянскай, старабеларускай і польскай мовах. Выпускнікі семінарый ведалі яшчэ як мінімум лацінскую, грэчаскую і старажытнаяўрэйскую. Канечне, гэта значна пашырала кругагляд.

**— Напэўна, менавіта па гэтай прычыне, як вы таксама адзначаеце, са святарскіх сем'яў выйшла шмат знакамітых вучоных, пісьменнікаў?**

— Я збіраў звесткі пра ўсіх прадстаўнікоў духавенства і выявіў, што фактычна ў любой сферы культуры і эканомікі беларуска-літоўскіх зямель XIX ст. можна ўбачыць сыноў уніяцкіх святароў на самых першых ролях. Да іх ліку належаць гісторык і архівіст, прафесар Віленскага ўніверсітэта Ігнат Анацэвіч, аграбіёлаг і эканаміст Міхал Ачапоўскі, прафесар Віленскага ўніверсітэта, доктар тэалогіі, славіст і арыенталіст Міхал Баброўскі, пісьменнік і выдавец, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі, філолаг Антон Будзіловіч, доктар медыцыны і гісторык Міхал Гамаліцкі, прафесар Віленскага і Харкаўскага ўніверсітэтаў, гісторык і правазнаўца Ігнат Даніловіч, прафесар Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта, прафесар Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, гісторык і публіцыст Міхал Каяловіч, паэт і публіцыст, заснавальнік «Дэмакратычнага таварыства» ў Віленскай Медыка-хірургічнай акадэміі Францішак Савіч, мастак Іван Хруцкі і многія іншыя.

Нават знайшлася цікавая адметнасць: калі заўважаеш, што нехта ў сям'і святара паступае вучыцца ў навучальную ўстанову свецкага ведамства, то можаш смела шукаць гэтае імя ў энцыклапедыях. Так я для сябе адкрыў, што заснавальнік расійскай санскрыталогіі, прафесар Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Каятан Касовіч таксама быў з сям'і ўніяцкіх святароў, падобнае паходжанне мела цэлая плеяда прафесараў Віленскага ўніверсітэта.

**— Ці часта дзеці святароў самі сталі святарамі і працягвалі справу бацькоў?**

— Безумоўна, вельмі часта. У часы, калі адукацыйная сістэма магла ахапіць толькі невялікую частку духавенства, існавала ўсяго некалькі семінарый і некалькі дзясяткаў кляштарных школ на ўсё Вялікае Княства Літоўскае, самым простым выйсцем для падрыхтоўкі новых кадраў было выхаванне пры бацьку. Кожны будучы святар менавіта пры бацьку вучыўся чытаць, пісаць, вывучаў катэхізіс, асновы арыфметыкі, а пасля на некаторы час накіроўваўся да кафедральнай царквы, дзе праходзіў непасрэдную вузкаспецыяльную падрыхтоўку. Калі браць звесткі да моманту ўваходжання нашых зямель у склад Расійскай імперыі, то каля 80 працэнтаў святароў з'яўляліся святарскімі сынамі. Натуральна, калі дзяцей у сям'і было многа, то не было магчымасці ўсіх уладкаваць на святарскія месцы, некаторыя станавіліся памочнікамі — вікарыямі, а некаторыя сыходзілі на больш нізкія пасады, былі дзячкамі, псаломшчыкамі пры цэрквах. Своеасаблівы рэкорд быў пастаўлены сям'ёй Вячоркаў з мястэчка Гарадной, што на Століншчыне. Клан Вячоркаў асеў пры царкве ў першай палове XVIII ст. і ўжо не выбіраўся адтуль ледзь не да нашага часу. Разам з членамі сем'яў, напрыклад, у 1819 годзе пры царкве адначасова працавала 39 прадстаўнікоў роду.

**— Вы распавядаеце ў асноўным пра хлопчыкаў. А як складваўся лёс жанчын — жонак і дачок святароў?**

— Вывучаць іх лёсы намнога складаней, бо крыніцы па святарскай генеалогіі да канца XVIII стагоддзя вельмі рэдка ў складзе сем'яў фіксуюць жанчын. Лічылася, што ў гэтым няма асаблівай патрэбы, бо парафія замацоўвалася за святаром. Нават калі ён паміраў, то ўдава мела мала правоў на саму царкву, зямельныя надзелы, калі не было дзяцей мужчынскага полу. Было прасцей жанчыне, калі яна мела шляхецкае паходжанне. Тады для абароны сваіх правоў яна магла звяртацца ў суды. Да пачатку XIX ст., акрамя метрычнай кнігі, дзе проста згадваецца імя жонкі ці дачкі, мы больш нідзе звестак пра іх не сустрэнем. Спецыяльных школ для дзяўчынак, дзе давалася якасная адукацыя, не існавала. Пры жаночых базыльянскіх манастырах былі школы, там вучылі асновам вядзення гаспадаркі, але далёка не кожную з дзяўчынак вучылі чытаць і пісаць, бо гэта не было жыццёва неабходна.

**— Наколькі актыўна беларуская гісторыя карыстаецца прасапаграфічным падыходам у сваіх даследаваннях?**

— Сам падыход у той ці іншай ступені выкарыстоўваўся і выкарыстоўваецца, але сам тэрмін у нас яшчэ не прыжыўся. Нашы навукоўцы часта інтуітыўна робяць тое, што ў заходняй гістарыяграфіі даўно і сістэмна тэарэтычна распрацавана. Прасапаграфічны метад яшчэ часта блытаюць з біяграфічным. Справа ў тым, што біёграфы збіраюць звесткі, што датычаць усіх бакоў жыцця чалавека: яго лёс, хобі, схільнасці, асабістае жыццё. Лічыцца, чым больш інфармацыі сабрана, тым лепш. Але калі мы вывучаем праблему ў прасапаграфічным зрэзе, то маем пэўную анкету-апытальнік, якія менавіта звесткі нас цікавяць. Ад гэтых пытанняў мы не адыходзім. Калі збіраеш звесткі пра святара і бачыш нейкія цікавыя моманты, да прыкладу, пра яго маёмасць, рысы характару, адметнасці ладу жыцця, ёсць спакуса іх таксама згадваць. Але гэтая інфармацыя прадстаўляе суб'ектыўную характарыстыку асобы — вачыма складальніка дакумента, у абавязкі якога ўваходзіла даць сваю ацэнку дзейнасці святара.

У 2014 г. тэрмін «прасапаграфія» ўжо «засвяціўся» ў беларускім перакладзе працы літоўскага гісторыка Рымвідаса Пятраўскаса «Літоўская знаць у канцы XIV—XV ст.». Цяпер, пасля выхаду аб'ёмнай кнігі «Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596 — 1839 гг.» варта чакаць павышэння інтарэсу да гэтага безумоўна каштоўнага і цікавага падыходу.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

# Скрыжаванне сусветаў

Кніга Уладзіміра Навумовіча «"НЕ", і як яго сказаць», якая выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», акунае чытачоў у стан «паміж двух агнёў». Прычым тычыцца гэта як палітыкі, так і любові — здавалася б, зусім процілеглых з'яў жыцця. Сітуацыя абвастраецца яшчэ і ад таго, што дзеянне адбываецца на стыку двух дзяржаў — ЗША і Савецкага Саюза, — ды яшчэ і на мяжы стагоддзяў.

Галоўны герой, Руслан Родны — хоць на дошку гонару: сакратар камсамола, выкладчык першага ўніверсітэта краіны, таленавіты літаратар, актывіст і грамадскі дзеяч. А яшчэ — сапраўдны мужчына, які клапоціцца пра сваю сям'ю, любіць жонку і дзетак, гатовы дзеля іх на ўсё. Але, як бывае ў любой вартай увагі прозе, характар персанажа не статычны, бо ідэалы нікому не цікавыя. На самай справе ў душы Руслана цэлая гара падводных камянёў: супярэчнасці з савецкай сістэмай, сімпатыя да дзяўчыны-калегі з роднай ВНУ, дзікая рэўнасць да жонкі, жаданне з'ехаць кудынебудзь і не вяртацца...

Уладзімір Навумовіч малюе шматгранна не толькі людзей, якія выконваюць у рамане вядучыя партыі, але і другасных герояў, што з'яўляюцца на некалькіх старонках. Узяць хаця б выкладчыцу Маргарусю Сурта, якая, па словах аўтара, на іспытах ператваралася ў фурыю, гатовую кінуцца на ахвяр-студэнтаў нібы певень: плечы ходырам хадзілі, каленкі падкошваліся, вочы бегалі, спадзеючыся прачытаць на тварах хлопцаў і дзяўчат здраду радзіме ці наяўнасць пары-тройкі шпаргалак.

Але вернемся да Руслана. У рамане ён разважае шмат, так што можна смела філасофскія прыпавесці складаць: пра каханне, вернасць, вечнасць і тленнасць жыцця, сям'ю, згрызоты сумлення, найвышэйшыя каштоўнасці і грахі. Дарэчы, нягледзячы на савецкія дэкарацыі і няяўны, але выражаны атэізм героя, у кнізе шмат адсылак да Біблії, рэлігійных разважанняў. Напрыклад, святой выступае бацькоўская зямля, падрабязна апісваюцца хрысціянскія традыцыі памінання продкаў, а таксама шлях душы ў рай або пекла.




Савецкая сістэма паўстае перад чытачамі не аднабока, а ў станоўчых і адмоўных колерах адначасова — па справядлівасці. Хоць, напэўна, больш усё ж такі крытыкі, якая, праўда, згладжваецца гумарыстычнай падачай.

Нашаму пакаленню ўжо і не ўявіць, што раней паездка ў ЗША, ды і ў любую іншую краіну за межамі «камуністычнага раю» каштавала не толькі грошай, а нечалавечых намаганняў, нерваў і часу. На плечы галоўнага героя звальваецца велізарная адказнасць — адправіцца ў амерыканскую камандзіроўку разам з камсамольскай арганізацыяй Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яму трэба скласці процьму дакументаў пра жывых і загінуўшых сваякоў, праслухаць серыю лекцый-інструктажаў і падрыхтавацца да таго, што кожны крок будзе старанна адсочвацца. Калі на Радзіме Руслана правяраюць, то ўжо там, у Штатах, бяруцца дасканала вывучаць звычкі, моцныя і слабыя бакі, захапленні, асабістае жыццё. Да яго нават прыстаўляюць шпіёнку…

Сюжэт пастаянна балансуе на мяжы мінулага і будучыні. Аўтар распавядае пра першую сустрэчу Руслана са сваёй жонкай, яго юнацкія перажыванні, пачатак кар'ернага шляху... А потым збівае з ног фразай «Людзі нараджаюцца свабоднымі ў гэтым свеце, і толькі мы самі чапляем на сябе вярыгі абавязкаў, клятваў, знаходзімся ў палоне ўласных пачуццяў». Герой спрабуе дасягнуць ідэальнага стану свабоды, калі можна слухаць толькі сябе, паступаць толькі так, як хочацца. Але ж наколькі гэта рэальна?

Трагічнай рысай праходзіць праз кнігу гісторыя кахання. «Ішоў — сэрца ледзь не выскоквала з грудзей, білася аб краі рэбраў, як хвалі аб бераг марскі, здаецца, не падстаў дзве далоні — упадзе пад ногі, растопчаш, затушыш». У яго жонку адкрыта закаханы іншы мужчына, яна сама паводзіць сябе дзіўна, хоць перажывае і вельмі любіць Руслана. Выпрабаванні пачуццяў — вось галоўны матыў кнігі, а не палітыка, як магло здацца спачатку.

Але Амерыка так ці іначай сустракае яго выццём сірэн, гулам манітораў, багаццем у крамах, броўнаўскім рухам у барах і на дыскатэках, штурханінай у падземках, мноствам агнёў, вычварнасцю неонавых малюнкаў... Застанецца ён на гэтых зямных нябёсах ці вернецца да родных?

Гэтая кніга яшчэ і пра тое, як непрыкметныя дробязі, з якімі мы сутыкаемся кожны дзень, напрыклад, візітка незнаёмца, могуць адыграць вырашальную ролю ў лёсе. Сустракаюцца на старонках цікавыя вобразы-сімвалы: завялая, пажоўклая, кінутая, але яшчэ жывая кветка магноліі, што атаясамліваецца з пачуццямі, чалавек, якога прасвечваюць наскрозь ранішнія промні сонца — нібы чужыя погляды.

Не чакайце ад кнігі «"НЕ", і як яго сказаць» шпіёнскіх інтрыг ці прыгодніцкага галавакружэння, гэта хутчэй філасофская проза. Чытайце яе як споведзь: думкі ў галаве становяцца чысцей, а паўсядзённыя клопаты ўжо не выклікаюць панікі. «Не бойцеся перамен. Не жадайце лішняга», — заклікае аўтар. Не, ён не навязвае, а на прыкладзе героя тлумачыць рэчы, вечныя ў нашым свеце і самыя, мабыць, важныя.



# Вогненныя дарогі

Зборнік паэзіі і прозы «За рэчкай», што пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда», — гэта праўдзівыя, шчырыя і пранізлівыя творы пра вайну ў Афганістане з удзелам савецкіх салдат, якая доўжылася амаль дзесяць гадоў. Кніга адпраўляе чытачоў на гарачае, пыльнае, распаленае выбухамі і стральбой горнае поле, дзе смерць ідзе побач з маладосцю, а надзея плавіцца на звар'яцелым сонцы побач з металам ад гармат.

Адкрывае зборнік аповед Алега Ермакова «Сад» пра маёра Кардымава, рускага опера, закінутага ў адну з бедных усходніх правінцый. Ён ляцеў у Афганістан, каб каардынаваць працу мясцовага царандоя (міліцыі), а фактычна трапіў у палон.

Людзі ў чалмах, каракулевых шапках і шараварах, у якіх можна схаваць кулямёт, з дзіўнымі цёмнымі вачыма, жанчыны ў коканах, «рухомыя мяшкі з сеткамі для вачэй», «істоты забітыя і бяспраўныя», адчуванне анархіі і дзікасці мясцовых нораваў. Акрамя таго, усё ішло не па плане: яго ніхто не сустрэў, а мясцовай мовы ён не ведаў.

Настрой аповеду нараджаецца з першых слоў, дасягаючы апагею у сярэдзіне, калі змрочныя незнаёмцы з аўтаматамі вядуць героя па вузкіх калідорах крэпасці, а потым ён, абяззброены, сядзіць за адным сталом з мясцовым правадыром і безвынікова тлумачыць яму прычыну свайго прыезду. «Непаразуменне» — гэтае слова магло б стаць другой назвай для аповеду, бо менавіта з яго пачынаюцца ўсе канфлікты… Хто ведае, з чым яшчэ трэба будзе сутыкнуцца герою і ці выжыве ён. Аўтар пакідае адкрыты фінал.

«Сон Рахматулы» — другі аповед таго ж Алега Ермакова, сюжэтна не менш насычаны, чым першы: вось ідзе канкрэтная баявая аперацыя, фігуруе то поле, «клапатліва ўсеянае проціпяхотнымі мінамі», то «стэпавы пейзаж з аплікацыямі кішлакоў, падобных да крэпасцей, ды ламанай рысай далёкіх гор».




Фарбы згушчаюцца ў той момант, калі героя кідаюць на зямлю, звязваюць рукі і перацягваюць вяроўкай шыю, прымушаюць ісці ў невядомым напрамку. Жудасная рэчаіснасць «расстаўляе свае пасткі на сцяжынках сноў. І рана ці позна ты трапляеш у іх», — тлумачыць аўтар. Проза атрымалася вельмі сімвалічная, бо невядома, хто схапіў салдата, — проста нейкія цені, што выйшлі з цемры. Аўтар тым самым як быццам падкрэслівае абсурднасць, несправядлівасць той абстаноўкі, у якую траплялі байцы. «Адны чалавечыя істоты ўлезлі сюды з гарматамі і самалётамі і пачалі ганяць па цяснінах іншых чалавечых істот, размазваць іх па камянях, ірваць на шматкі і падкідваць вышэй дрэў разам з асколкамі іх бездапаможныя гліняныя хаткі», — прыкладна так адгукаецца пісьменнік на падзеі таго часу. І гэтымі словамі сказана многае.

Сумную прозу дапаўняюць меланхалічныя вершы Вадзіма Дулепава пра смалісты і кіслы пах цынку, якім патыхае паветра ў Афганістане, пра развітанне з родным васільковым полем, «русымі рускімі хвоямі». У вершах не знайсці сентыментальнасці, вытанчанасці стылю, яны армейскія, простыя, але лірыка падкупляе шчырасцю, мужчынскім характарам, сілай духу. Горная пяхота, страх, што разганяе кроў, кулі як сініцы, «цесная, глейкая спёка», выццё ветру ў маркотным стэпе, лёс у невядома чыіх руках — усе гэтыя вобразы складаюцца ў адну вялікую карціну, дазваляючы нават не ўявіць, а адчуць...

Маладому герою з вершаў сніцца радзіма, каханая жонка, загінуўшы таварыш. Ён хоча хутчэй вярнуцца, пабачыць сына, які будзе радасна бегчы насустрач. Да слёз кранае верш «Без цябе» пра развітанне ў аэрапорце двух родных сэрцаў: «*…где нет пощады, на табло — разлука. / где бьет в стекло наотмашь мокрый снег. / где ты, в благословенье вскинув руку, / меня, прощая, молча крестишь в след*».

Матывы, жаданні, рысы абстаноўкі ў кнізе паўтараюцца, але трагедыі і лёсы людзей унікальныя. Наступныя ў кнізе — апавяданні Ігара Фралова пад агульнай назвай «Так пісаў Заратустра».

Галоўны герой, борттэхнік і лейтэнант, аказваецца мастаком, творцам у душы — як, дарэчы, і многія іншыя, тыя, каму на вайне было не месца. «Пяшчота, несумяшчальная з жыццём», прачынаецца ў хлапечай душы, бо ў маладосці хочацца любіць, а не страляць па жывых мішэнях.

Герой імкнецца палепшыць свае вайсковыя будні: малюе багінь і піша паэтычныя лісты сябру — пра дзіўных казурак, якія сталі вялізнымі праз адсутнасць птушак, шалясценне пяску замест звыклай лістоты, які ноччу так сячэ па фанерных сценках, што, здаецца, ідзе сухі снег, пра пякельную спякоту, белае неба і чырвоныя горы краіны, дзе нарадзіўся прарок.

Вершы Міхаіла Міхайлава прадаўжаюць думкі пра тое, што салдацкае сэрца мае патрэбу ў цяплі і разуменні. Даваенная восень, родныя двары, рыпучыя лесвіцы, класікі на асфальце, развешаная на вяроўках у двары бялізна, мядовае пахкае сонца бабінага лета — радуйцеся, што ўсё гэта ў вас ёсць. Гэты зборнік — вельмі патрэбны як зварот да маладога пакалення.

У кнігу ўвайшлі творы і іншых аўтараў — Мікалая Чаргінца (урывак з рамана «Сыны»), Рыгора Сакалоўскага, Сяргея Белагурава, Аляксандра Брыта. У іх распавядаецца пра падзеі не толькі ў гушчы ваенных дзеянняў, а і пасля, у мірныя часы: як паўставалі з попелу, адраджаліся, збіралі страчанае шчасце.

**Марыя ВОЙЦІК**

## Маладзічок

Алёна БЕЛАНОЖКА

# Залатыя косы

Сонечка была шыкоўнай шатэнкай. Настолькі шыкоўнай, што, калі яна ішла па вуліцы, аўтамабілісты прыпынялі хаду і адчайна сігналілі, спадзеючыся, што ніхто не раскажа пра гэта іх жонкам. Кожны хацеў падвезці Сонечку да працы і потым хваліцца перад сябрамі.

Сонечка працавала ў тэатры, але не ў драматычным, а ў тэатры лялек. Кар'еру пачынала ў тэатры драмы, там закахалася ў маладога рэжысёра. Аднойчы падчас мастацкага савета рэжысёр палаяўся з кіраўніцтвам тэатра і гучна крыкнуў:

— Больш вы мяне ніколі не ўбачыце!

Пасля гэтага ён сабраў партфель і перайшоў працаваць у тэатр лялек, які знаходзіўся праз дарогу. Сонечка пайшла за сваім кумірам.

Рэжысёр расцаніў такі ўчынак Сонечкі як ідэйную вернасць. Ён нічога не ведаў пра яе каханне і зусім не цікавіўся Сонечкай як жанчынай. Рэжысёр любіў бландзінак. Любіў іх, як любяць сонца, кветкі і жыццё — безапеляцыйна і бездаказальна, проста таму, што яны ёсць на свеце.

На жаль, Сонечка была хоць і шыкоўнай, але шатэнкай. Перафарбаваць валасы ёй не дазволіла маці. Яна так і сказала: «Заб'ю!» Сонечка вельмі добра ведала сваю маму, таму пытанне пра змену колеру валасоў з павесткі было знята.

Тады Сонечка вырашыла дзейнічаць метадам, правераным стагоддзямі. Мужчыну трэба прыручыць. Нямала высілкаў і часу, затое эфектыўна.

У Сонечкі быў вагон часу і баявы рэсурс у выглядзе мамы. Сонечка пачала актыўнае наступленне. Яна насіла рэжысёру маміну хатнюю выпечку і вішні са свайго саду, пасля рэпетыцый заўсёды праводзіла куміра дадому, а каб удала падтрымліваць размову, па начах чытала тыя ж кніжкі, што і ён. Нават падарыла яму фіялку, каб «у кабінеце не было так няўтульна». Рэжысёр прывык да Сонеччыных абедаў і пачаў давяраць ёй свой партфель. Аднак раптам здарылася непрадказальная катастрофа.

У тэатры з'явілася маладая актрыса, выпускніца сталічнага тэатральнага інстытута. Прыгажуня з біблейскім іменем Маша была натуральнай бландзінкай. Яе доўгія залатыя косы чароўна пераліваліся ў святле рампы, а калі Маша іх распускала, каб расчасаць, залаты вэлюм ахутваў дзяўчыну чароўным незямным ззяннем. Рэжысёр любаваўся Машай, яна абуджала яго самыя патаемныя фантазіі.

Сонечка перастала заплятаць косы, але каштанавы вэлюм яе валасоў узрушваў фантазію рэжысёра значна слабей. Разам з гэтым высветлілася, што закаханы мужчына гатовы галадаць суткамі, перастае цікавіцца кнігамі і ўсім, чым цікавіўся раней. Сонечка зразумела, што яе шанцы заваяваць сэрца куміра імкліва набліжаліся да нуля.

Рэжысёр страціў сон, спакой і астаткі розуму. Ён праводзіў Машу да пад'езда, цалаваў ёй рукі, чытаў вершы і слаў лісты — папяровыя, у канвертах, з засушанымі фіялкамі. Маша ўсміхалася, як Джаконда. Сонечка добра ведала гэтую ўсмешку: так усміхаецца жанчына, якая яшчэ не дала згоду ўслых, але ўжо сто разоў пагадзілася ў думках.

Тым часам незямное каханне спаслала на рэжысёра гэткае ж незямное натхненне, і ён вырашыў зрабіць новую пастаноўку.

— Машачка, а якая Ваша любімая казка? — як быццам між іншым спытаўся мэтр у маладой актрысы.

— «Спячая Прыгажуня», — адказала Маша і апусціла вочы.

Назаўтра на мастацкім савеце тэатра было вырашана ажыццявіць пастаноўку казкі «Спячая Прыгажуня». У тэатры закіпела праца: мастакі малявалі, швачкі шылі, рабочыя грукаталі малаткамі, кампазітар пісаў песні ў Машаччынай танальнасці, а адміністратары хваляваліся, каб паспець усё да пачатку тэатральнага сезона.

Аднойчы Сонечка зайшла ў вытворчы цэх і ўбачыла галоўную гераіню будучага спектакля. На вочы Соні набеглі слёзы. Новая лялька вісела на кручку, апранутая ў сукенку з залатой парчы, пахла клеем і была адзін ў адзін падобная да Машы. Залацістыя валасы лялькі ўпрыгожвала карона тонкай работы з чэшскімі крышталямі, што зіхацелі як зоркі.

«Ён каранаваў яе!» — падумала Соня. Ёй стала крыўдна. Усё магло б быць па-іншаму, калі б не гэтыя клятыя залатыя косы!

Але Сонечка не збіралася здавацца.

«Прэм'ера сезона: "Спячая Прыгажуня"!» — абвяшчалі афішы па ўсім горадзе.

У зале было поўна людзей — дзяцей і бацькоў, на шумна разрэкламаваную пастаноўку сабралася ўся тэатральная эліта горада, набегла багата рэпарцёраў, яны сталі ўздоўж сцен і прыцэлілі аб'ектывы фотаапаратаў у чаканні цуду.

Першы акт прайшоў на адным дыханні. Маша выпраменьвала дабрыню і блішчэла талентам. Сонечка, якая атрымала ролю Старой Ведзьмы, таксама была на вышыні, але ведзьмамі гледачы звычайна не захапляюцца. Сонечка вельмі чакала антракт.

У антракце акцёры пайшлі папраўляць грым і паліць цыгарэты. Сонечка шмыгнула за кулісы і, нікім не заўважаная, хуценька вярнулася ў сваю грымёрку.

Антракт скончыўся. Гледачы занялі месцы ў зале. Пагасла святло, занавес падняўся… І ўсе вохнулі. Лялечная Спячая Прыгажуня па-ранейшаму ляжала на сваім каралеўскім ложку... але была лысая.

Па зале пракаціўся смех. Дарослыя дасталі тэлефоны і пачалі здымаць відэа. Рэпарцёры зашчоўкалі фотаапаратамі. Рэжысёр схапіўся за галаву.

Але ў Машы была сталічная загартоўка. Яна не заплакала і не збегла са сцэны, а падышла да лялькі і ўзялася за крыж-вагу.

Спячая Прыгажуня падняла маленькую ручку і сказала Машыным голасам:

— Як доўга я спала!

Дзеці сціхлі і паглыбіліся ў дзею. Дарослыя засароміліся і адзін за адным схавалі тэлефоны. Тэатральная эліта зашапталася пра арыгінальнасць рэжысёрскай задумы і глыбокі сімвалізм пастаноўкі.

На наступны дзень Сонечка сядзела ў фае і засяроджана гартала свежую прэсу, спадзеючыся прачытаць ганебныя водгукі на адрас прэм'еры. Аднак водгукі былі выключна станоўчыя, а з фотаздымкаў Сонечцы ўсміхалася золатавалосая Маша.

Пакуль Сонечка шаргатала газетамі, у тэатр увайшла жанчына з дзяўчынкай. Дзяўчынка была ў хустачцы і прыціскала да сэрца альбомны аркуш.

— Добры дзень! — павіталася жанчына.

— Добры, — адказала Сонечка і адклала газеты.

— Мы ўчора былі на прэм'еры, — сказала жанчына.

— А-а, вам трэба кніга скаргаў? Гэта ў адміністратара, на другім паверсе! — Сонечка махнула рукой у бок лесвіцы.

— Не, — адказала жанчына. — Мы прыйшлі не скардзіцца. Мы прыйшлі падзякаваць. Дачушка, пакажы, што ты прынесла!

Дзяўчынка працягнула Сонечцы аркуш. На ім была намаляваная Спячая Прыгажуня — у яркай, пышнай сукенцы, у кароне, але без валасоў.

— Ведаеце, — сказала жанчына і з любоўю паглядзела на дзяўчынку, — мы не здымаем хустачку ўжо год. Раней і ў нас былі такія прыгожыя залатыя косы… А пасля быў курс хіміятэрапіі. І мы перамаглі. Праўда, кос няма. Але мы ўсё роўна прынцэсы. Праўда, дачушка?

Дзяўчынка кіўнула.

У Сонечкі перахапіла дыханне. Яна ўзяла дзяўчынку за руку і паглядзела ёй у вочы. Вочы былі вялікія-вялікія, блакітныя, як кветкі цыкоры, і па-даросламу разумныя, таму што ведалі, што такое боль.

— Вырастуць… твае косы вырастуць! — сказала Соня. — Ведаеш, якія яны будуць? Доўгія-доўгія, густыя, такія, што ўсе дзяўчынкі будуць табе зайздросціць! А кім ты хочаш быць?

— Актрысай, — адказала дзяўчынка і пагладзіла Сонеччыны валасы.

— Будзеш! Абавязкова будзеш! Вось глядзі, — Сонечка зняла з сябе залаты ланцужок і надзела яго на дзяўчынку, — ён шчаслівы. Гэта табе падарунак. У абмен на малюнак!

Калі дзяўчынка і яе маці выйшлі з тэатра, Сонечка ўзбегла па лесвіцы на другі паверх, у сваю грымёрку. Яна зачынілася знутры, упала на канапу і заплакала.

Жыццё такое імклівае, а яна, замест таго каб быць шчаслівай, змагаецца з чужымі валасамі! А ці варты гэтага чалавек, які ўсё роўна ніколі не пакахае? Свет такі вялікі! І тэатр у ім — не адзін, і ёсць на свеце яшчэ ролі, акрамя Спячай Прыгажуні і Старой Ведзьмы!

Праз два дні Сонечка сабрала чамаданы і з'ехала ў сталіцу. Там у адным з тэатраў у яе шыкоўныя каштанавыя валасы закахаўся іншы рэжысёр, і Сонечка стала па-сапраўднаму шчаслівай.

А малюнак дзяўчынкі і сёння вісіць у Сонечкі ў грымёрцы, і калі нехта пытаецца, што ж гэта за прынцэса такая — без валасоў, Сонечка заўсёды адказвае:

— У яе залатыя косы. Проста вы іх не бачыце!

## На паліцы

# Быць шчаслівымі

**Творы, што ўвайшлі ў гэтую кнігу, трэба чытаць не спяшаючыся, каб атрымаць асалоду ад каларытнага, смачнага беларускага слоўца, цікавага, захапляльнага сюжэта, адметных жаночых вобразаў, хвалюючых, часам драматычных гісторый кахання.**

Так, аповесці і апавяданні з кнігі Тацяны Мушынскай «Джульета і экстрасэнс», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», можна назваць жаночай прозай: аўтар — жанчына, галоўныя героі — таксама жанчыны, яркія, запамінальныя. Чытаеш — і адкрываеш для сябе новы захапляльны свет шчырых пачуццяў, цікавых, важных думак і разважанняў.

Героі пісьменніцы — нашы сучаснікі, сярод якіх пераважаюць прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. З асаблівай цікавасцю аўтар даследуе свет жаночай душы. Героі аповесці «Доўгае развітанне» — сучасныя музыкі, падзеі аповесці «Апошняе каханне Дон-Жуана» разгортваюцца ў мастакоўскім асяроддзі, у аповесці «Джульета і экстрасэнс» паказана жыццё тэатральных дзеячаў у абласным горадзе. І ў кожным творы імкненне герояў да шчасця.

Вельмі цікавыя апавяданні, абразкі, мініяцюры, у якіх пісьменніца адкрыта і шчыра малюе сучаснае жыццё такім, якое яно ёсць, паказвае яго станоўчыя і адмоўныя бакі. Сапраўдным гімнам сваім продкам — прадзедам, дзядам, бабулям, бацькам — можна назваць дакументальную аповесць Тацяны Мушынскай «Сад маіх успамінаў». Пісьменніца з вялікай любоўю і павагай піша пра людзей, якія многа ўмелі рабіць сваімі рукамі, хораша, трывала, надзейна. Асабліва яркія старонкі — пра бабулю Марыю Іванаўну, якая з сям'ёй жыла ў адным з самых паэтычных куткоў Мінска — на Грушаўцы.

Міхась СЛІВА



# Сцэна? Вуліца!

## І БРЭСЦКІ ФОРУМ ВУЛІЧНЫХ ТЭАТРАЎ ПРАЙШОЎ У КУЛЬТУРНАЙ СТАЛІЦЫ БЕЛАРУСІ

**Упершыню горад над Бугам пазнаёміўся з вулічным тэатральным мастацтвам падчас знакамітага Міжнароднага тэатральнага фестывалю «Белая Вежа». Дзею, перанесеную з тэатральных падмосткаў у гарадскую прастору, берасцейцы ўпадабалі адразу і з задавальненнем хадзілі на плошчу Леніна, каб паглядзець спектаклі. А летась гарадское маладзёжнае аб'яднанне «Спадчына» пайшло на эксперымент — запрасіла некалькі «вулічных» калектываў выступіць у Брэсце на пешаходнай вуліцы Савецкай.**



Фота Аляксея Ганчука.



Гараджанам эксперымент спадабаўся, і арганізатары прыдумалі новы творчы праект — І Брэсцкі форум вулічных тэатраў. Ініцыятыву аб'яднання «Спадчына» падтрымалі ў гарвыканкаме. І вось 1 жніўня планы сталі рэальнасцю ў межах святкавання Дня горада і ў ліку мерапрыемстваў цыкла «Брэст — культурная сталіца Беларусі 2015». Відовішча атрымалася незабыўнае.

У фэсце бралі ўдзел больш як два дзясяткі калектываў з сямі гарадоў Беларусі і Японіі. Жывыя скульптуры, акцёры, танцоры, фокуснікі-ілюзіяністы, хадулісты, джамперы, жанглёры — звыш 170 удзельнікаў вулічна фэсту на трох пляцоўках радавалі публіку.

Гістарычныя дакументы сведчаць, што першымі акцёрамі ў Брэсце былі скамарохі. Інвентар 1566 года ў пераліку прафесій гараджан называе трох з іх — Ціта, Герасіма і Германа, якія і ладзілі прадстаўленні на вуліцах. І вось ужо ў XXI стагоддзі гэтую традыцыю падтрымалі ўдзельнікі І Брэсцкага форуму вулічных тэатраў. Іх шэсце па Савецкай стала своеасаблівым пралогам маштабнага тэатральнага дзейства.

Калі б у гэты дзень у Брэсце апынулася спадарыня Мельпамена (муза-апякунка тэатральнага мастацтва), яна, несумненна, была б задаволена. На працягу дня артысты расказвалі і паказвалі самыя розныя гісторыі, прымушалі гледачоў смяяцца, плакаць, разважаць. Часам гледачы станавіліся ўдзельнікамі тэатральнай дзеі.

Тэатральная майстэрня «Сляды» з Гомеля прадставіла дзве пастаноўкі: вулічны паэтычны спектакль «Паэты і тэатр. Гуляем у Шэкспіра» і паэтычную праграму «Пагаворым пра дзівацтвы», заснаваную на паэзіі А. С. Пушкіна. У першай вершамі гомельскіх аўтараў распавядаліся сюжэты Шэкспіра. А другая пастаноўка даказвала актуальнасць вершаў Пушкіна. Музычнае суправаджэнне надавала незвычайнае гучанне класічным творам.

Тэатр лялек, святла і ценю «Дом сонца» з Мінска парадаваў перформансам «Ружовы фламінга». Сімпатычная ружовая птушка лёгка знаходзіла паразуменне з дарослымі і дзецьмі. А вось выстаўка-перформанс «Вачыма дзіцяці, або Бабулін фартух», паказаная народным маладзёжным тэатрам «Кола» з Віцебска, вярнула гледачоў у дзяцінства. Яшчэ адзін сталічны калектыў — тэатр танца «Альтана» (творчая студэнцкая ініцыятыва) — прэзентаваў гледачам імправізацыйную харэаграфічную замалёўку «Не адыходзь». Аповеды пра каханне ніколі не пакідаюць абыякавым.

Адразу некалькі захапляльных гісторый паказалі на форуме госці з Японіі. Творчая майстэрня «Мандзюсяка» ўпершыню выступала ў Брэсце. Калектыў наведаў ужо 34 краіны. Мама Роза, стваральнік тэатра, прызналася: «Наша выступленне — гэта своеасаблівая малітва. І мы хочам прымусіць людзей задумацца пра тое, што мір — самая галоўная каштоўнасць». Яркія касцюмы, зробленыя творчай майстэрняй «Мандзюсяка», традыцыйная японская музыка захапілі аўдыторыю. Культура і гісторыя Краіны Узыходзячага Сонца ў гэты дзень наблізіліся да Брэста, які адзначаў 996-ы дзень нараджэння.

Парадавалі і вулічныя артысты з Брэста: тэатр-шоу «Бліскавіца», студыя сучаснага танца «MAY», клуб «Жанглёры Брэста», тэатр танца «Postscriptum» ды іншыя. Удзельнікі тэатральнай імпрэзы далучыліся да карнавальнага шэсця, якое ўпершыню прайшло па цэнтральных вуліцах. І хоць тэатральнае мастацтва захапіла гарадскую прастору толькі на адзін дзень, гэтага было дастаткова, каб марыць пра новыя сустрэчы з вулічным тэатрам.

**Святлана ТАБОЛІЧ**

# Кітай: жывапісная прастора

Больш як два дзясяткі твораў жывапісу і графікі з залатога фонду сучаснага кітайскага выяўленчага мастацтва прадстаўлена ў галерэі «Ракурс» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Стваральнікі гэтых работ атрымалі прэміі падчас XII Нацыянальнай Усекітайскай мастацкай выстаўкі. Гэтая экспазіцыя — яшчэ адзін значны крок у развіцці беларуска-кітайскіх культурных стасункаў.

Аўтары прадстаўленых работ — кітайскія мастакі Пэн Вэй («Трыццацігадовы ўзрост», 2014), Лі Кан («Горад. Абуджэнне насякомых», 2014), Хэ Мэнцюн («Хлопцы з Баша», 2011), Янь Пін («Вольная рыбка», 2013), Юй Сяадун («Свята Гадань-нгачог», 2014) ды іншыя.

Першы намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алена Далгаполава падкрэсліла: у фондах кніжніцы налічваецца звыш 5 тысяч асобнікаў кніг і перыядычных выданняў, прысвечаных гісторыі, культуры, мастацтву, геаграфіі, палітыцы Кітая. На рахунку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і шэраг сацыякультурных праектаў, сярод якіх — фотавыстаўка «Загадкавы Кітай», выстаўка каліграфіі і майстар-клас па каліграфіі ды многія іншыя. Нагадаем, дарэчы, што дэлегацыя з КНР сёлета была ганаровым госцем XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

Паводле міністра культуры Рэспублікі Беларусь Барыса Святлова, гэтая выстаўка ўяўляе сабою квінтэсэнцыю таго, што мог пабачыць кітайскі глядач у сябе на радзіме. Творы XII Нацыянальнай Усекітайскай мастацкай выстаўкі дэманструюць розныя кірункі, стылі, жанры кітайскага выяўленчага мастацтва, шляхі яго развіцця цягам апошніх пяці гадоў.

Першы намеснік старшыні Асацыяцыі культуры і мастацтва Кітайскай Народнай Рэспублікі спадарыня Чжаа Шы акрэсліла асноўную мэту выстаўкі: пазнаёміць жыхароў нашай краіны з самымі сучаснымі тэндэнцыямі ў развіцці кітайскага мастацтва. Беларускаму гледачу карысна ўбачыць: у Кітаі любяць прыроду, жыццё, імкнуцца да захавання міру. Спадарыня Чжаа Шы распавяла і пра структуру Асацыяцыі культуры і мастацтва КНР, якая налічвае 110 тысяч работнікаў сферы мастацтва.



Фота Ганны Бізюковай.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Цуй Цымін заўважыў: работы, прадстаўленыя на выстаўцы, паказваюць самы высокі ўзровень развіцця сучаснага кітайскага мастацтва. Спадар пасол упэўнены: праз сузіранне палотнаў беларускі глядач зможа спасцігнуць дух кітайскай культуры, канцэпцыю гарманічнага развіцця грамадства, імкненне кітайскага народа да хараства і дасканаласці. Спадар Цуй Цымін назваў новую выстаўку пачатковым этапам Дзён культуры Кітая ў Беларусі, якія пройдуць тут у кастрычніку.



Кан Лэй «Бязвінныя вочы». 2011 г.

Падчас адкрыцця выстаўкі адбылася ўрачыстая цырымонія падпісання дагавора аб супрацоўніцтве паміж Канфедэрацыяй творчых саюзаў Беларусі і Асацыяцыяй культуры і мастацтва Кітайскай Народнай Рэспублікі. Старшыня Канфедэрацыі творчых саюзаў Беларусі, генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў выказаў упэўненасць, што падпісанне такога дакумента паспрыяе ўмацаванню творчых стасункаў Беларусі і КНР.

**Яна ЯВІЧ**

# З адной краіны ў другую


урожай у снопахъ и кормовыя травы
семьдесятъ копъ ржи считая 1 копну 10 руб. 700
сорокъ копъ овса считая копну по 9 руб. 360
восемь копъ ячменя счит. копну по 9 руб. 72
четыре копы гречихи считая копну 9 рублей 36
двѣ десятины картошки на суму 500
тридцать шесть пучковъ льна изъ сѣменами 60
огородныхъ овощей на суму 100
двѣ тысячи шестьсотъ пудовъ сѣна счит. пудъ 50 к. 1300
тридцать пять пудовъ ржи-зерна счит. пудъ по 1 р 50 52
пять пудовъ проса считая 1 пудъ по 3 руб. 15
итого 319[illegible]

Першая сусветная вайна пачалася 28 ліпеня 1914 года, а ўжо летам 1915-га Беларусь стала цэнтрам важных і палітычных падзей. Брэсцкая вобласць уваходзіла ў зону баявых дзеянняў Заходняга фронту. Да Драгічынскага раёна вайна дакацілася ў жніўні — роўна 100 год таму. А перад гэтым, у сувязі з адступленнем рускай арміі, з тэрыторыі Заходняй Беларусі пачаўся масавы сыход мясцовых жыхароў у бежанцы.

Часта эвакуацыя адбывалася прымусова, мясцовым жыхарам давялося ехаць ва ўсходнія раёны Беларусі, а таксама ў губерні цэнтральнай Расіі. Разумеючы, што ўсю маёмасць з сабой забраць немагчыма, жыхары ў прысутнасці прадстаўнікоў улады і панятых складалі акты на кожную пакінутую сялянскую гаспадарку, каб потым у выпадку знішчэння атрымаць ад улад кампенсацыю маёмасці.

У літаратуры часам згадваецца, што царскія ўлады не хацелі пакідаць немцам хаты, гаспадарчыя пабудовы з запасамі харчавання — загадалі казакам спальваць іх пасля сыходу жыхароў. Прыхільнікам ідэі «выпаленай зямлі» быў галоўнакамандуючы рускага войска вялікі князь Мікалай Мікалаевіч, але пры цару Мікалаю спальваць населеныя пункты перасталі. У вёсках на Драгічыншчыне пасля вяртання бежанцаў, паводле відавочцаў, захаваліся хаты і пабудовы, нават шкло ў вокнах не было пабіта.

У далёкі шлях адпраўляліся на вазах з маёмасцю цэлымі вёскамі. Ехалі не наўздагад — на вузлавой чыгуначнай станцыі Лунінец бежанцаў накіроўвалі ў вызначанае для жыхарства месца. Напрыклад, жыхары вёскі Осаўцы пераехалі ў Саратаўскую губерню. Дзіўным чынам у аднаго з вяскоўцаў захаваўся акт вопісу і ацэнкі маёмасці сялянскай гаспадаркі.

Гэты каштоўны і цікавы дакумент — сведка эпохі — паказвае, як жылі людзі ў Заходнім Палессі на пачатку мінулага стагоддзя:

*«Опись и оценка имущества крестьянина Гродненской губернии Кобринского Уезда Осовецкой волости села Осовцы Осипа Гаврилова Волоса 1915 года августа 18 дня.*

*Мы, ниже подписавшиеся, оценщики и понятые по приглашению крестьянина Осипа Гаврилова Волоса прибыли на место его жительства, расположенного в селе Осовцы в виду военного времени произвели опись и оценку его имущества, при чем оказалось: Наименование имущества:*

*один жилой дом на сумму 600 рублей, хлебный и сенной сарай на сумму 300 рублей, два скотских сарая на сумму 200 рублей, два амбара на сумму 200 рублей, все постройки покрыты соломою. Итого 1300 рублей.*

*Урожай в снопах и кормовые травы:*

*семьдесят коп ржи считая одну копну 10 рублей — 700 рублей, сорок коп овса считая одну копну по 9 рублей — 360 рублей, восемь коп ячменя считая одну копну по 9 рублей — 72 рубля, четыре копы гречихи считая одну копну по 9 рублей — 36 рублей, две десятины картошки на сумму 500 рублей, тридцать шесть пучков льна с семенами на сумму 60 рублей, огородных овощей на сумму 100 рублей, две тысячи шестьсот пудов сена считая 1 пуд 50 коп. — 1300 рублей, тридцать пять пудов зерна ржи считая пуд (і г. д. — А. П.)…*

*Владелец имущества Осип Гаврилов Волос, а за неграмотного и по его личной просьбе расписался Евгений Шрамук.*

*Оценщики: Адам Шрамук, Иван Шлапак.*

*Понятые: Варфоломей Шрамук, Георгий Подлужный.*

*Означенные в сей описи имущества так равно теленки, свиньи, лошади, принадлежащие крестьянину села Осовцы Осипу Гаврилову Волосу, действительно им оставлено на месте при наступлении неприятеля и вывезено или продано не было, что подписью с приложением должностной печати удостоверяю и добросовестность оценщиков и понятых лично мне известных подтверждаю.*

*Осовецкий Волостной Старшина / П. Михиевич».*

Як відаць з дакумента, гаспадарка была не самая слабая і сям'я не галадала, хаця і было ў ёй шмат дзяцей. Для параўнання і для таго, каб зразумець, што можна было купіць тады на рубель, прывяду інфармацыю па заработнай плаце і коштах на прадметы першай неабходнасці на жнівень 1914 года, складзеныя Маскоўскай гандлёвай палатай і апублікаваныя ў той час у газеце «Новае жыццё»:

дзённы заробак: цесляры, сталяры — 1,6 — 2 рублі, землякопы — 1,3 — 1,5 рубля;

муляры, тынкоўшчыкі — 1,7—2,35рубля,чорнарабочыя— 1 — 1,5 рубля.

Цэны на прадукты за фунт (400 грамаў): чорны хлеб — 2,5 капейкі, белы хлеб — 5 капеек, ялавічына — 22 капейкі, свініна — 23 капейкі, селядзец — 6 капеек, масла — 48 капеек, яйкі (за дзясятак) — 30 капеек, малако (за кубак) — 7 капеек.

Цэны на прадметы першай неабходнасці: паркаль за аршын (0,71метра) — 11 капеек, сукно за аршын — 2 рублі, мужчынскі абутак (за пару) — 12 рублёў, мужчынскі касцюм — 40 рублёў, запалкі (пачак) — 10 капеек, газа (вядро) — 1,7 рубля, дровы (воз) — 10 рублёў.

Праўда, на Драгічыншчыне цэны крыху адрозніваліся, бо пасля года вайны ўсё падаражэла.

Цяжка было жыхарам пакідаць родны край, сваю гаспадарку і ехаць у невядомасць. Людзі беглі ад вайны і думалі, што гэта ненадоўга. Таму на калёсы бралі самае неабходнае, тым больш што час на зборы быў абмежаваны. Некаторыя каштоўныя рэчы ды інвентар закопвалі ў зямлю. Часам адбываліся дзіўныя рэчы.

М. Шрамук, жыхар Осаўцаў, запомніў расказ свайго бацькі, які быў бежанцам. Калі абоз з сем'ямі ад'ехаў ад вёскі даволі далёка, хтосьці ўспомніў, што забыў нейкую вельмі каштоўную рэч і дакументы. Гаспадар распрог каня і паслаў на ім сына назад. З часу ад'езду прайшло гадзіны тры, але калі хлопец прыскакаў у Осаўцы, то ўбачыў, што казакі, якія служылі ў рускім войску, адкопваюць схаваную вяскоўцамі маёмасць і дзеляць між сабой...

Вельмі цяжкае выпрабаванне выпала тады на долю мірнага насельніцтва. Па дарогах рухаліся войскі, разам з імі, па абочынах, — бежанцы: хто на вазах, а хто пешшу з клункамі. Усім трэба было дзесьці начаваць, харчавацца… Многія не вытрымлівалі такой дарогі, асабліва маленькія дзеці — хварэлі і паміралі.

Для бежанцаў расстанне з Радзімай расцягнулася на доўгія шэсць гадоў. За гэты час многае змянілася. Сем'і бежанцаў вярнуліся ў іншую краіну: Драгічынскі раён стаў часткай Польшчы. Чаму не вярнуліся раней? Ішла Грамадзянская вайна, мужчын мабілізавалі ў Чырвоную Армію. Дый і як дабрацца дамоў па тэрыторыях, якія належаць розным палітычным сілам? Усюды — голад і разруха, цягнікі не хадзілі…

Многія вёскі апусцелі, а палі зараслі хмызняком. Трэба было прыкласці шмат сіл для аднаўлення гаспадаркі. Грамадзянская вайна скончылася, пачалося новае жыццё.

**Аляксандр ПАЎЛЮКОВІЧ**

*Да 70-годдзя Вялікай Перамогі*

# Сяржант Лобан, лейтэнант Макаёнак...

**Беларускія пісьменнікі, якім выпала змагацца з ворагам падчас Вялікай Айчыннай, ваявалі, безумоўна, не дзеля ўзнагароды. Аднак многія з іх за мужнасць і смеласць былі адзначаны ордэнамі і медалямі. Пра гэта можна напісаць цэлую кнігу, і яна атрымаецца незвычайнай, бо ў кожнага літаратара быў свой шлях да подзвігу. Давайце разам пагартаем узнагародныя лісты.**

Аляксей Кулакоўскі камандаваў узводам у 868-м стралковым палку. Ордэн Чырвонай Зоркі ён атрымаў «за тое, што ў баях 31 студзеня 1944 г. пры вызваленні сяла Лідава Здалбунаўскага раёна Ровенскай вобласці паказаў сябе адважным і рашучым афіцэрам». Камандзір гэтага палка падпалкоўнік Тарасаў адзначаў:

«Гвардыі лейтэнант Кулакоўскі са сваім узводам першым уварваўся ў с. Лідава, зламіў ярасны супраціў ворага і рашучай атакай прымусіў яго ўцякаць».

Мікола Лобан таксама камандаваў узводам, але быў сяржантам. На фронт пайшоў добраахвотнікам. У адным з баёў на Ленінградскім фронце ён падняў сваіх байцоў у атаку, першы ўварваўся ў нямецкія траншэі, захапіў станковы кулямёт і… быў цяжка паранены. Менавіта за гэты бой творца атрымаў ордэн Чырвонай Зоркі, а загад аб узнагародзе быў падпісаны 6 лістапада 1945 г.

Падобная гісторыя адбылася з Іванам Мележам. Як і Мікола Лобан, ён вызначыўся яшчэ ў 1942 г. А свой ордэн Чырвонай Зоркі таксама атрымаў пасля Перамогі. Ва ўзнагародным лісце гаварылася:

«…На прыступах да ракі Збруч (Паўднёвы фронт)… тав. Мележ, камандуючы ўзводам артылерыйскага дывізіёна 298-га горнастралковага палка 192-й горнастралковай дывізіі, 12 гадзін стрыліваў націск немцаў, вёў агонь прамой наводкай. Было падбіта два варожых танка і адна бронемашына».

Цікава, што ў горнастралковым падраздзяленні (63-й горнастралковай дывізіі) служыў яшчэ адзін будучы класік беларускай літаратуры — Андрэй Макаёнак. Ён таксама ўступіў у свой галоўны бой у надзвычай цяжкім для краіны 1942 годзе. Гэта адбылося на крымскай зямлі. Прадстаўляючы палітрука да ўзнагароды, камандаванне палка адзначала:

«Зрабіўшы праходы ў мінным полі і драцяной загародзе, лейтэнант Макаёнак раніцай 10 красавіка 1942 г. вывеў роту на рубяжы атакі і павёў рашучае наступленне на ворага. Падчас атакі лейтэнант Макаёнак быў паранены асколкам у правую нагу. Убачыўшы, што байцы яго роты пад моцным мінамётна-кулямётным агнём праціўніка заляглі, падняўся сам, падняў байцоў і працягваў наступленне. Пад канец атакі тав. Макаёнак быў паўторна цяжка паранены асколкам міны ў левую нагу».

Увогуле, гэтая ўзнагарода — «зорачка», як яе называлі франтавікі, ёсць у многіх беларускіх пісьменнікаў ваенная пакалення. Вось і Васіль Быкаў праз тыдзень пасля Перамогі атрымаў «Чырвоную Зорку». Дарэчы, гэта была яго адзіная ваенная ўзнагарода…

**Юрый КАМЯГІН**

# Скарбы музейныя

**Нацыянальны гістарычны музей Беларусі запрашае на вялікую прэзентацыю музейных рэлíквій. Выстаўка «79 прыступак углыб гісторыі» пазнаёміць з унікальнымі экспанатамі, што захоўваюцца ў фондах установы.**



Фота Ганны Бізунковай.

*Скульптуры воінаў у даспехах з бронзы.*

Выстаўка прымеркавана да выхаду ілюстраванага альбома «Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь».

Як паведаміў дырэктар установы Алег Рыжкоў, экспазіцыю склала больш як дзве тысячы прадметаў. Гэта калекцыі выяўленчага мастацтва, гадзіннікаў, медалёў, посуду, мэблі, музычных інструментаў, старадрукаў ды інш. Некаторыя рэчы ўжо экспанаваліся падчас іншых выставак, але большасць прадстаўлена шырокай публіцы ўпершыню.



*Свяшчэнныя кнігі.*

У дзвюх залах, дзе размясцілася экспазіцыя, пануе асаблівая атмасфера мінулага: здаецца, што трапіў на некалькі стагоддзяў таму. Разнастайныя прадметы распавядаюць пра гісторыю і традыцыі нашай краіны, стасункі з іншымі дзяржавамі, узаемаўплывы культур.

Выстаўка адрасаваная самай шырокай аўдыторыі — кожны знойдзе шмат цікавага і карыснага. Жанчыны, несумненна, не змогуць прайсці міма вітрыны, дзе прадстаўлены рускія какошнікі канца XVIII — XIX стагоддзяў, веер з пёраў страуса і настольнае срэбранае люстэрка, выраблене фірмай «К. Фабержэ». А вось мужчынам прыйдзецца даспадобы калекцыя зброі і абмундзіравання, якую склалі шаблі, стрэльбы, кірасы, галаўныя ўборы, што выкарыстоўваліся падчас бітваў розных часоў. Да ўвагі тых, хто цікавіцца нумізматыкай, — калекцыі антычных манет.

Ёсць тут і рэдкія дакументы, фотаальбомы выпускнікоў сталічных гімназій, абразы беларускай школы іканапісу... Асобныя старонкі айчыннай гісторыі ілюструюць старадаўнія мапы — «Мінская губерня з 10-цю паветамі» і «Карта падарожжа Яе Імператарскай вялікасці ў Беларускія намесніцтвы ў 1780 годзе». З найкаштоўнейшых экспанатаў — грашовыя знакі часоў паўстання Тадэвуша Касцюшкі, мандаліна працы італьянскіх майстроў, а таксама Пояс Вітаўта, знойдзены каля вёскі Літва Маладзечанскага раёна. Упершыню дэманструецца поўная калекцыя слуцкіх паясоў і іх фрагментаў.

«Большасць прадметаў, прадстаўленых у экспазіцыі, адносіцца да так званага даіндустрыяльнага грамадства, — распавёў куратар праекта Алег Ладзісаў. — Рэчы, сагрэтыя рукамі майстроў, захоўваюць адметны дух свайго часу, у іх шмат загадак і таямніц. Выстаўка — магчымасць дазнацца, як жылі нашыя продкі, зладзіць незабыўнае падарожжа ў мінулае».

Пабачыць музейныя рэліквіі можна будзе да канца года.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

*Імпрэзы*

## Іркуцкае прывітанне

Творчая сустрэча з прадстаўнікамі беларускай дыяспары Прыбайкалля адбылася ў Бялыніцкай цэнтральнай раённай бібліятэцы. Госці — Алег Рудакоў — ініцыятар стварэння Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, якое ўзначальваў 17 гадоў, і Воля Галанава — беларускамоўная сібірачка ў 5-м пакаленні, узначальвае грамадскую арганізацыю маладзёжны клуб «Крывічы», кіраўнік гурта аўтэнтычнага спеву «Крывічы» — прыехалі па запрашэнні Юрыя Несцярэнкі — літаратара, музыканта, аўтара і выканаўцы, стваральніка гуртоў *White Night Blues* і *Nestary Band*.

Творчая спадчына выхадцаў з Беларусі ўзбагаціла рускую навуку і культуру. У першым шэрагу выдатных даследчыкаў Сібіры — Іван Чэрскі, чыё імя носіць Іркуцкае таварыства беларускай культуры. За апошні час фонд бялыніцкай кніжніцы папоўніўся такімі выданнямі, як «Беларускае замежжа», «Беларускі Пецярбург», «Беларусы Масквы». Адна з кніг прысвечана беларусам Сібіры, а адзін з раздзелаў — беларускім перасяленцам у Прыбайкаллі, дзе згадваецца і Іркуцкае таварыства, дзякуючы падтрымцы якога многія жыхары беларускіх вёсак у Сібіры не забываюцца на свае карані.

Алег Рудакоў і Воля Галанава шчыра адказвалі на пытанні прысутных, спявалі старажытныя народныя песні. Гурт аўтэнтычнага спеву «Крывічы» вядзе вялікую работу па пошуку і захаванні фальклорнай спадчыны беларусаў, а іх канцэрты праходзяць далёка за межамі Прыбайкалля. Выступалі яны і на фестывалі «Славянскі базар у Віцебску».

Супрацоўнікі Бялыніцкай ЦРБ перадалі некалькі кніг для кніжніцы пры Таварыстве беларускай культуры. Дарэчы, гэта адзіная ўстанова такога кшталту ў Расіі і адзіная нацыянальная ў Іркуцкай вобласці.

**Алена ГРЫБАЙЛАВА**

*Памяць*

# Родам з-пад Зэльвы

**Героі рамана Уладзіміра Дудзінцава «Белае адзенне» нагадваюць пра рэальныя выпадкі здзеку з вучоных-генетыкаў. Сярод пацярпелых ад «лысянкоўшчыны» — акадэмік Антон Жэбрак з вёскі Збляны Зэльвенскага раёна.**

У маі 1947 г. Антон Раманавіч стаў прэзідэнтам Акадэміі навук БССР. Не паспелі сціхнуць апладысменты ў гонар новага кіраўніка, як пачаліся цкаванні. Зачэпкай стаў нарыс Жэбрака ў англійскім часопісе «Навука». Напісаны яшчэ ў 1945-м па даручэнні антыфашысцкага камітэта савецкіх вучоных, яго допіс быў добра вядомы ў навуковых колах. Ніхто і не думаў абурацца ні яго зместам, ні самім фактам публікацыі. Але… Тры вядомыя пісьменнікі раптам сталі дасведчанымі ў біялогіі і змясцілі ў жніўні таго ж года ў «Литературной газете» гнеўны ліст «На суд общественности». Эпітэтаў для вучонага мастакі слова не шкадавалі: рэакцыянер, паклёпнік, нізкапаклоннік…

Калі праз тры з паловай месяцы тыя, хто прасіў акадэміка павесці за сабой, наладзілі яму сапраўднае судзілішча, Антон Раманавіч ледзь перажыў гэты кашмар.

Вучоны не згаджаецца з рашэннем Бюро ЦК КП(б) аб вызваленні яго з пасады прэзідэнта, піша ў Сакратарыят Усесаюзнай Кампартыі, Молатаву, Суславу… Марна! Быў арганізаваны суд гонару ў Міністэрстве вышэйшай адукацыі, у Акадэміі навук БССР. Прэзідыум заслухаў пытанне «Об антипатриотическом поступке Президента Академии Наук Белорусской ССР профессора А. Р. Жебрака», Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР рассылае спецыяльныя лісты дырэктарам ВНУ, Палітбюро ЦК УКП(б) вызваляе Жэбрака ад абавязкаў загадчыка кафедры генетыкі Сельскагаспадарчай акадэміі імя Ціміразева, а на яго месца прызначае Трафіма Лысенку…

Тэматыка А. Жэбрака па поліплаідыі выключаецца з планаў АН БССР, вучонага пераводзяць старшым навуковым супрацоўнікам, а потым вызваляюць і з гэтай пасады.

Жэбрака пазбаўляюць і ад абавязкаў члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, Ціміразеўскі райкам настойвае на выключэнні з партыі. Здавалася, зло, як і ў рамане Дудзінцава, вось-вось пераможа дабро. Але былі ў вучонага надзейныя сябры, якія не кінулі ў бядзе. Дапамаглі атрымаць работу ў маскоўскім Лесатэхнічным інстытуце, затым — на кафедры батанікі Маскоўскага 2-га Медыцынскага фармацэўтычнага інстытута.

Паволі, крок за крокам, наладжвалася даследчыцкая работа, на вопытных дзялянках аддаленых ад Масквы інстытутаў працягваліся даследаванні, завяршалася пачатая ў 1930-я гады праца. Толькі праз 10 гадоў, у 1957 годзе, Прэзідыум АН БССР зацвердзіў прызначэнне А. Жэбрака на пасаду загадчыка аддзела поліплаідыі Інстытута біялогіі АН БССР.

Гаворка пра чалавека, які ў гады вайны адселекцыяніраваў і размножыў вывезеныя з Беларусі да пачатку акупацыі каштоўныя папуляцыі пшаніцы, а пасля вызвалення Беларусі перадаў на радзіму каля трох тон элітнага насення азімых сваёй селекцыі. Вучоныя сцвярджаюць, што выведзенымі Жэбракам гатункамі пшаніцы засяваецца больш як палова пасяўных плошчаў планеты!

Зэльвенцы не забыліся пра выбітнага земляка. На яго радзіме ўстаноўлены памятны знак. У райцэнтры ёсць вуліца яго імя. У раённай бібліятэцы сабрана шмат унікальнага матэрыялу пра лёс Антона Раманавіча, да юбілею вучонага праводзяцца гутаркі, агляды літаратуры, арганізуецца кніжная выстаўкі. Прачытаць пра акадэміка можна і ў кнізе «Памяць. Зэльвенскі раён».

**Яніна ШМАТКО**

# Фэнтэзі, афорты і літары

**Выстаўка айчыннага мастака-графіка Валерыя Рулькова «ЯНЫ» працуе ў сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.**



Фота Ганны Бізунковай.

*«Рытон». Бронза, 2013 г.*



*«Сон». Афорт, 1998 г.*

Валерый Рулькоў нарадзіўся ў 1953 годзе ў г. Кобрыне Брэсцкай вобласці. Скончыў аддзяленне графікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Удзельнік выставак плаката і графікі, у тым ліку ў японскім горадзе Канагава (1998 — 1999). Цяпер — выконваючы абавязкі дырэктара Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. А яшчэ выкладае малюнак у альма-матар — Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

«ЯНЫ» — гэта не толькі насельнікі свету фэнтэзі. Гэта яшчэ і літары, дакладней, прадстаўленыя на выстаўцы выявы славянскіх буквіц. Увогуле ж выстаўку складаюць тры кампаненты: фэнтэзійныя скульптуры, выявы з гіпсу і афорты.

Аўтар работ распавядае: у рэдакцыі часопіса «Парус», куды яго запрасілі пасля заканчэння інстытута, працаваў над афармленнем спецвыпускаў, прысвечаных фантастыцы, пазнаёміўся з многімі пісьменнікамі-фантастамі: Юрыем Брайдэрам, Мікалаем Чадовічам, Яўгенам Драздом… А пазней перайшоў на працу ў выдавецтва «Эрыдан», якое ўвогуле спецыялізавалася на фантастычнай літаратуры. Так і з'явіліся ў яго творчасці, значны ўплыў на якую аказала мастацтва кельтаў, міфічныя вобразы — да іх стварэння ён прыйшоў шляхам буквіц ды фэнтэзі.

Валерый Аркадзьевіч не аддае перавагу ніводнаму з кірункаў сваёй творчасці, атрымліваючы эстэтычную асалоду ад самога працэсу — асоба мастака насамрэч шматгранная! У яго работах дакладна выпісаны вобразы чарадзейных істот, падобных да троляў.

Уражвае пластыка буквіц, а таксама твораў з гіпсу, у ліку якіх — «Змей Гарыныч», «Грыфон», «Гарпія», «Казярог» ды іншыя фэнтэзійна-казачныя персанажы.

Цікавыя і іншыя работы: «Раўнавага», «Падстаўка для курыльнай трубкі», «Кій». Сярод афортаў — «Яны», «Сасна», «Палёт матылька», «Босх», «Дон Кіхот». Словам, талент майстра праяўляецца ў самых разнастайных формах і ракурсах. І ўсюды — вельмі тонка, арыгінальна і ў той жа час змястоўнага.

Выстаўка прадоўжыцца да 5 верасня.

**Яна ЯВІЧ**



# Погляд знутры

**Выстаўка Аляксандра Салівончыка «Партрэт сучасніка» адкрылася 29 ліпеня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Мастак прысвяціў экспазіцыю свайму настаўніку, выкладчыку Мінскага мастацкага вучылішча імя А. К. Глебава, графіку Алегу Вікенцьевічу Луцэвічу, які нядаўна пайшоў з жыцця.**

Біяграфія гэтага чалавека багатая на подзвігі. Нарадзіўся ў далёкім 1924-м, ваяваў у партызанскім атрадзе. У мірны час працаваў у музеі Вялікай Айчыннай вайны, потым — педагогам, цалкам прысвяціўшы жыццё мастацтву. Алег Луцэвіч вырасціў не адно пакаленне мастакоў, збіраючы вакол такіх, як ён, — апантаных творчасцю, таленавітых і смелых. Пасля заканчэння вучобы Аляксандр Салівончык пастаянна прыходзіў да Алега Вікенцьевіча ў майстэрню, раіўся, не забываў настаўніка, які даў яму не толькі мастацкія, але і жыццёвыя ўрокі. «Алег Луцэвіч хацеў, каб па жыцці нам, маладым творцам, было лёгка. Ён заўсёды падтрымліваў духоўна, вучыў не хваляваца па дробязях, але разам з тым — востра адчуваць і добра бачыць прастору навокал», — адзначыў аўтар экспазіцыі.

На выстаўцы «Партрэт сучасніка» — маштабныя, у чалавечы рост, незвычайна экспрэсіўныя партрэты. У іх няма назваў. На тварах — глыбокія эмоцыі, розныя характары, станы, душы.

Працы Аляксандра Салівончыка неадназначныя: часам здаюцца змрочнымі, а ў іншым ракурсе — узвышанымі. Але ўсе карціны выклікаюць, па словах беларускай мастацтвазнаўцы Ларысы Фінкельштэйн, сапраўдны арт-шок!

«Работы Аляксандра Салівончыка ўключаюць столькі рэчаў і дэталяў адразу, прычым часта супрацьлеглых, што атрымліваецца дзіўны эфект, небывалая экспрэсія. Вялікія памеры палотнаў цалкам апраўданыя, інакш карціны страцілі б часцінку сваёй моцы. Захапляючыся насычаным колерам, мастак не губляе фактуру — па перыметры ўсіх палотнаў выявы застаюцца самадастатковымі і пераканаўчымі», — падзялілася ўражаннямі даследчыца.

Акрамя партрэтаў у залах музея былі прадстаўлены пейзажы аўтара з ужо больш традыцыйным, звыклым почыркам мастака. Дарэчы, Аляксандр Салівончык пасля вучылішча скончыў Маскоўскі паліграфічны інстытут, працаваў рэстаўратарам у Чыкага, а затым зноў узяўся за мастацкую адукацыю — ужо ў Германіі. Работы яго экспанаваліся ў многіх краінах свету.

**Марыя ВОЙЦІК**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 6.08.2015 у 11.00

Ум. друк.11 арк. 3,72

Наклад — 2034.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1483 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12